Таіса Бондар

# Чырвоны месяц года



# I

*Калыхаю дзіця, адвячорак...*
*І мяне калыхае зямля,*
*а зямлю калыхае прастора,*
*наплываючы небам здаля...*



Як доўга прарастала зерне слоў
з маленства, з тых вайной заклятых сноў,
што не збудзіць ніяк... Па слову брала
у кожнай стрэчы, ў горкай песні ўдоў,
у смутку маці, ў сынавых гадоў —
і слоў было мне гэтых мала, мала!

Я ўслухвалася ў іншыя — ў свае,
не знаючы, чаго ім не стае,
каб вырасці ў любоў маю, ў прызнанне.
Піла дажджы. Піла святло нябёс.
Знаходзіла ў душы крыніцы слёз
і з іх піла, напіцца з іх не ў стане.

І спрабавала вырасці. Сама!
Цягнулася да сонца. А зіма
чарговы год кідала ў скрыню часу
і не хацела верыць, што ва мне,
завалены гадамі, ўжо звінеў
самотны гук. Ён быў слабы, няясны.

Ён больш нагадваў боль. І ўсё-ткі рос.
Рос так балюча, быццам быў мой лёс.
Я чула словы — я змагла іх скласці!
Яны былі ад маці. З песні ўдоў.
З тых сноў забытых. З сынавых гадоў.
— Зямля. Радзіма. Будучыня. Шчасце.

* * *

Прасцей абвінаваціць свет
за ўсё, ў чым сэрца вінавата.
І ў дрогкім сне заблытаць след,
што не прывёў дарогу ў свята.
І не прачнуцца на званок
будзённай, звыклае турботы —
гады, журботны іх вянок,
паклаўшы ў голаў, сніць употай
сябе, шчаслівую за ўсіх...
Прасцей! Ды прастата не ўцеха.
Ізноў я ад нягод сваіх
хаваюся за ўсплёскам смеха.
І неба горбіцца слабей,
хоць заглушае смех трывога:
«Свет — не навокал, у табе,
і гэткі, вартая якога.
Свет — не навокал, у табе...»

## ЖЫЦЦЁ НАВЫРОСТ

### 1. ЛЮТЫ. 1945

Спадзеўка ў кожнага свая:
я плакала — ваўчыца выла
на маладзік,
 што над магілай,
хаваючы ў ёй нас, стаяў.
І нас... Ніхто, як дзень назад,
як год назад, не лічыць паўшых.
І што дзіця ў рахунку страшным
вайне пасля бясконцых страт?

Слязінка... Ўкруг, як разглядзець,
зямля варонкамі чадзіла,
нібыта жудасным кадзілам
была — і асвячала смерць,
благаслаўляла смерць. Яшчэ
трымалася душа, трывала,
а ноч — ваўчыцы падвывала
і ліпла, ліпла да вачэй.
Спазніся, бацька, хоць на ўздых,
не выхапі мяне з той ночы,
не крыкам, дык тугою воўчай
я захлынулася б тады.
Зямлянка... Воўчае выццё...
Тыфозная гарачка маці...
На нітцы крыку — не ўтрымацца...
І — з бацькам! — увайшло Жыццё.

## 2. МАЦІ

Чыесьці рукі хуталі мяне
ў сваё бяссонне,
і праціралі ў цёмным паўакне
газнічку поўні,
і ткалі з калыханкі цішыню
над зыбкай з ночваў —
мне сніўся снег, і наледзі агню
на ўзгорку ночы,
і тыя рукі, цеплыня тых рук...
Збудзіла — памяць.
Гукаю: «Ма-ма!» —
крык мой, як жаўрук,
крыло апаліць
і доле апускаецца, на шлях.
А я гукаю.
Адштурхваю ад рук, ад воч абсяг —
не адпускае.

Адштурхваю ад рук, ад воч зямлю —
яна ўсё бліжай:
бяроза ўніз сцякае па камлю
на плечы крыжа,
карэнні на цяжкіх вузлах гадоў
трымаюць яму...
Уткнуўшыся ў зямлю, ў яе падол,
гукаю: «Мама!» —
і адгукаецца зямля.

### 3. ДЗЕНЬ, ЯКОГА Я НЕ ПОМНЮ

Зямля... Не першы страх,
не першы крок свой — помню
той пах, што па губах
размазвала далонню.
Салодкі, ён гарчыў,
гарачы, пёк бясконца,
бы поўдзень на плячы
сядзеў і дыхаў сонцам.
Ніхто мне не назваў
той поўдзень, дзень. Паволі
спаўзаў па промню цень
аднекуль зверху, з голля.
Не чорны, белы цень —
таму чарнела сонца
і слепнуў, слепнуў дзень,
не ўчуўшы ў ветры стронцый,
завальваўся набок...

А мне і страху мала:
святло — малы драбок! —
у пальцах раставала.
Я злізвала яго
з пяском налiплым разам.

А ўжо гудзеў агонь,
скакала стрэлка часу
і бомба да зямлі
ляцела — не схавацца:
у лёсе і маім
той бомбе разарвацца.
Ляцела праз гады,
ляціць — прыкрыйся снамі
ад атамнай жуды,
як ёю ўспухне памяць!
Зямля... Гарачы пах,
салодкі пах дагэтуль
гаркавіць на губах,
апаленых тым летам.

## 4. СПРОБА НАВУЧЫЦЦА ЧЫТАЦЬ

Новы дзень — на шархаткіх лістках
кімсьці зачараваныя словы,
па якіх магу, як па мастках,
бегчы ў казку... Брат іх адчароўваў.
Я злавала: дзень жа быў і мой —
я застацца ў гэтым дні хацела.
Словы, складзеныя мной самой,
ажывалі на паперы белай.
Ажываюць! — неслухмяны дождж
раскруціў вясёлку, як скакалку,
і бярозы, вербы басанож
скачуць праз скакалку гэту.
Галкі
падняліся вышай за пагляд,
воблак кацянём прамоклым трэцца
аб яго... Палошча ў рэчцы сад
вёска, прычасаная пад вецер.
Я не чую, што мне кажа брат,

адабраўшы кнігу. Я чытаю
дзень, і дождж, і галак — акурат
над дажджом, у неагляднай далі.
Перапыненая, ўсё ніяк
крыўду братаву не ўразумею:
дзень жа быў і мой — чытала я! —
я па-зачараванаму ўмею!
Літар многа. Колькі хочаш дзён
можна скласці з іх —
                        з зімой, з адлігай,
з сонцам, з гэтым вось дажджом... А ён
нечага пакрыўдзіўся за кнігу.

### 5. АДНОСІНЫ З БОГАМ

Быў бог. Збіраў малітвы, медзякі,
палохаў д'яблам, быццам большым братам.
«Цябе няма!» — крычала я ў блакіт
і ў крык свой уціскалася: а раптам?!
Здавалася: чарнеў, палёг быльнёг
і дзесьці ў вышыні званы званілі...
Вярталася дыханне, і спалох
ператвараўся ў крыўду: мне званілі.
Яго няма. Ніколі не было.
Я бегла ў хату. Каб усё ўзапраўду —
узлезшы на падсунуты услон,
на дыбачках, упоравень з лампадай,
з цікаўнасцю партрэт яго стары
разглядвала. Без страху. Вочы ў вочы.
«Цябе няма,— пагляд мой гаварыў,—
і не караюць перуны, рагочуць».
Паказвала язык яму...
                        Ці раз
бабуля, спрытна згробшы мяне з лавы,
уходжвала дубцом! — я ж напаказ
не плакала і тым сцвярджала права

на самастойнасць, на любы адказ
таму, каго прыдумалі для зману.
Інакш нашто ён?!
                    Бачыла ж: абраз
старонкай кнігі быў размаляванай.
А мне казалі: бог...

## 6. ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ МІНУЛАГА

Хата згарэлым карэннем
чуе, як згадкі паснулыя
цягне ў сваё сутарэнне
ноч... Вінавата мінулае.
Скрозь вінавата. За гора:
хочаш — вычэрпвай цыбаркаю,
хочаш — напіся, і горлам
песня крыві не адхаркае.
Скрозь вінавата! За бацьку.
За медалямі прыкрытыя
раны яго, па-салдацку
двойчы зямлёю прамытыя.
Сцежку не вернеш з нябыту —
што мае словы прачулыя!
Бацька мінулым забіты.
Зноў! Вінавата — мінулае.
Марна баюся за сэрца,
болем яго падманутая:
зноў, непрызнаная смерцю,
выжыву горкай мінутаю.
Грудай каменнаю — помнік
часу, разгубленай памяці...
Страшна. Выкідваю ў промні
словы,
        каб больш не параніцца.

## 7. У ПОЛІ

Гады маленства, лёгкі іх вянок
калыша Пціч... Навыперадкі з сонцам
сцялю — да валаконца валаконца —
льняны, яшчэ не тканы дыванок.
Ад хаты да бярэзніку. І далей,
да ўзгорка, што трымае небасхіл.
І вышай, да сівых бусліных крыл,
якія звыкла дзень пераждагналі.
І вышай, вышай — покуль цішыня
святлее, доўжыцца... Шчыруе мара.
Льняны мой дыванок адрэжа хмары,
ён, дыванок, і стане сцежкай дня!
Не чую воклічаў. Не чую рук,
што не даюць ляцець і так надзейна
утрымваюць ад кроку і падзення,
я — міг раней! — пераступіла круг.
І падаю кудысьці ўвысь. І бачу:
дзень падае ўсім небам на мяне,
насустрач — ён нас з сонцам сутыкне!..
І раптам чую, як бабуля плача.
Усхліпваю. Тлумачу пра абшар,
пра сонца, што не ўпала ў вір сінечы.
Бабуля шэпча, гладзячы мне плечы:
— Ты вырасці... Ты падужэй спярша!

## 8. БАБУЛЯ КАЦЯРЫНА

Якой была? Такою ж, як і ўсе.
З адной вайны не прычакала мужа,
з другой сыноў...
Была й нядужай — дужай:
адсеецца, у копы луг знясе,
сажне паўдня, на жорны ссыпле збожжа,
замесіць хлеб з паловай напалам
і, каб зямля з-пад ног не паплыла,

укленчыць перад мацеркаю божай.
Чаго прасіла? Ды таго, што ўсе.
Каб жыта і налета урадзіла,
а да жніва, як не пакіне сіла,
яна ўсё пераробіць пакрысе.
Каб дзень ад воч цямрэчай не адрынуў,
каб не ўсчалася, не прыйшла вайна...
Мне — мацеркаю божаю яна,
яна была, бабуля Кацярына.
Заплаканай душой штогод, штокруг,
хінуся да яе, ледзь шлях паверне,
прашу не сілы, веры той бязмернай
у справу рук сваіх, у сілу рук.

## 9. ПРАТЭСТ СУПРАЦЬ БУДУЧЫНІ

Выштурхвалі ў плечы гады
з маленства, на збіты прасёлак,
дзе пыл ад патрушчаных зорак
нагадваў сняжок малады.
Ён ззяў, ён прыемна хрумсцеў,
і я... я не ўчула трывогі:
дарога крывавіць мне ногі,
кульгае на кожнай вярсце,
пусцее, губляе ліхтар,
адзін і другі... Напачатку
ў сабе я шукаю разгадку:
ці ж я не расла сярод мар?
Паверыць, што зорнай трухой
засыплюць імгненні дарогу?
Што згода з жыццём — перамога
над смерцю, да неба глухой?
Што будучыня — успамін?
Што мне не падняцца над лёсам?
О не, лепей гэтак вось, босай,—

па сколках пражытых хвілін!
О не! Лепей раптам, самой
да каліўца боль свой раструшчыць,
чым боль той прыняць за відушчасць,—
па сколках трывогі сваёй!
Навошта разгадваць жыццё,
спадзеўкамі цешыцца ўпотай?
Ёсць міг — ён аплачан работай,
аплачан спаўна пачуццём,
ёсць рух — закаванае ў рух
імкненне страчаць кожны ранак...
Ну, не аддасі ж свае раны
юнацтву — нас двое на круг!

## 10. ПЕСНЯ

«А калі ж той вечар
дый павечарэе?
Калі маё сэрца
дый павесялее?..»
Плакалі жанкі
або спявалі —
словы ў сінь ракі
слязьмі сплывалі.
На вадзе цвілі
(сляза — лілея!)
і па ўсёй зямлі
дажджы шалелі.
Я піла іх сум,
не напілася,
ад пакутных дум
не адраклася.
Што ні шлях — шынок,
і ў ім — музы́ка,
ён за ўсіх жанок
паплача звыкла

ў шэры мікрафон,
амаль апоўнач...
Слёзы... Гэта фон!
Ніхто не помніць:
плакалі жанкі
або спявалі...
Берагі ракі
падмылі хвалі,
і сышла вада,
і рухнуў бераг:
што ні дзень — бяда
ў чыесьці дзверы.
Дабяжыш, гукнеш —
не адчыняюць...
Што, не чуе меж
былога памяць?
Хустку скіну з плеч,
спадзеўка грэе.
«А калі ж той вечар
дый павечарэе?»

## 11. СТРЭЧА, ЯКОЙ НЕ БЫЛО

Ён прыходзіў. Я яго не знала
і пазнала — Лёс!
Ноч прынёс, якая стала — залай:
як з калон, з бяроз
аплывала таямнічым ззяннем
неба цішыні.
Цішу здзьмуў — высокімі вазамі
паплылі агні,
зарыпелі колы, голле, сцежкі,
вецер рос і рос...
Мне б прачнуцца!—патушыла ўсмешкай
позірк, поўны слёз,
падала руку. Ён — разгубіўся,

адступаў спіной,
спатыкнуўся і абрынуў высі
між сабой і мной.
Падала руку яму? Жанчына ж!
Этыкет, гады...
І пасля... Мо лепш не знаць, аб чым ён
мне б сказаў тады?

## 12. СТАЛАСЦЬ

Жаночая доля? Такую не знаю.
Дарога была. І дарога скразная!
Ад гора, што доўга ішло за вайною,
да горычы, што называю вінoю.
Вінoю за ціхую матчыну песню,
якую за мною гады не панеслі —
засыпалі жвірам, накрылі сінечай...
Сірочыя плечы — мужчынскія плечы.
О тыя прапахлыя хлебам і потам
гадзіны, гады — кіламетры работы!
Я іх не лічыла: навошта падлікі?
Вось зараз, вось заўтра я стану вялікай
і буду сама выбіраць сабе клопат,
не выйшаўшы ў поле, адкінуўшы вопыт...
А поле расце — не ахопіш вачыма,—
яно як жыццё ўжо... Які адпачынак!
Кашулю памыць для каханага ўночы
няцяжка, цяжэй не глядзець яму ў вочы,
калі прыпазніўся, калі вінавата
замоўчвае здраду, замоўчвае страту.
Былое ўздыхне над калыскай аб нечым...
Сірочыя плечы — мужчынскія плечы.
О тыя без слёз і без скаргаў адчайных
гадзіны, гады — кіламетры маўчання!
Работа. Характар... Я з ім і вякую.
Жаночая доля? Не знаю такую.

# ТРЫВОГА

## I

Зямля... Яна кожнага з нас прычакала.
Для кожнага кветкі і хлеб зберагла.
Заве нас людзьмі! Хіба гэтага мала,
каб час калыхаў у сваіх берагах
не цені надзей, а надзеі ўсіх паўшых,
не крыкі дзяцей, а дзіцячыя сны?
Між памяццю нашай і будучым нашым
раз'ясніцца неба з прыходам вясны —
і дзень як насыпаны вечнасцю горшчык:
зярнятка пасееш — жыты да нябёс,
слязінка ўпадзе — з-пад каменнае тоўшчы
крыніцы выходзяць да хвой і бяроз,
галінку ўтыркнеш — падымаюцца пушчы,
агучыш іх словам — спявае абсяг!
Адкуль жа трывога? Бы шлях невідушча
ступіў на масток, дзе закончыцца шлях,
ступіў — і на ўсіх патыхнула цямрэчай
з прадоння гадоў...
Не магу — не хачу! —
раптоўна паверыць, што свет наш не вечны,
што смерць адгукнецца яго трубачу
і ўзвіхрыць над намі чырвоную замець,
назваўшыся новай, апошняй вайной.
Трубач — наша памяць. Агульная памяць.
Жывыя... Мы знаем, якою цаной!

## II

Здаецца, што не зарастаюць гадамі
магілы — і доўжыцца, доўжыцца смерць,
і час на мяне ўсю віну ускладае:
не ўмела, не ўмею за дзецьмі глядзець.

Не ўмею. Яны і растуць і сталеюць
пад жэрламі новых і новых пагроз.
Без страху. У страху, што войны здалеюць
Зямлю адарваць ад карэнняў бяроз.
Пра што, пра якія з трагедый крывавых
магу я сказаць ім: «Калісьці былі...»?
Магнаты са Штатаў адстойваюць права
пасеяць не жыта, а страх на зямлі,
паставіць не хаты, а сховы ад неба,
павесіць над імі напалмавы чад,
пакінуць мільёны галодных без хлеба,
каб потым — за хлеб! — абярнуць у салдат.
І твар у іх белы ці чорны — навучаць
чарнюткаю, гнуснаю помніць душу...
Чужыя законы. І ўсё ж мне балюча.
Чужыя сыны. І да іх я пішу!
Павінны ж пачуць — не мяне, дык трывогу,
якая дыктуе мне кожны радок,
якая спрабуе старонку былога
назад адгарнуць, нагадаць яго ўрок.
Бо смерць загадала па ўсіх нас, агулам,—
ад першых, цяжкіх сутыкненняў ракет
да мёртвай Зямлі, што, як прысакам, гулам
засыпле бяскроўны, халодны свой след...

III

Не, не, хай усіх нас склікае трывога
і жах перажыты не вернецца зноў!
Зноў век не шкадуе нічога, нікога —
за прывідны, прыбыльны бляск заваёў.
Хоць што зваявана? Маўчанне Хатыні?
Жахлівы апёк Хірасімы? Сангмі?
Руіны Бейрута? Ці тыя пустыні
вакол,
што выгнаннікі пояць слязьмі?

Мо хтосьці паверыў, што страты забыты...
Мо хтосьці чакае, што ўваскрэсне любоў
і мары, нібыта пруткі яе, спрытна
нам звяжуць прасцяг і над ім галубоў...
Не звяжуць. Не змогуць. Знішчае і мары
шалёны, зняверaны ў людзях агонь.
Быць мужным сягоння — змагацца з пажарам,
з ваенным пажарам, з пагрозай яго.
Быць мужным —
быць побач, быць поруч з усімі,
хто, свет засланіўшы жывою сцяной,
ад новай, сусветнай цяпер Хірасімы,
свой голас узняў супраць згоды з вайной.
І выйшаў на вуліцы веку. І разам,
і горача выдыхнуў грознае«Не!».
І гэтае «Не!» стане нашым адказам
любой — і малой і вялікай — вайне.

IV

Малая... Вялікая... Што з яе росту!
Дзіцячаму крыку ад куль не ўцячы...
Забойцы, штораз ідучы на забойства,
не тояцца болей у сховах начы.
Яны дэманструюць злачынствы. Адкрыта.
З цынічнай усмешкай. Нібы напаказ.
Пад голас будзённае тэлемалітвы
са стужкі экраннае цэляцца ў нас.
Каб толькі ж! Ва ўсіх —
у Зямлю, што за намі,
у заўтрашні дзень, у самое жыццё!
Мне цяжка ўявіць: недзе маці сынамі
завуць іх — страчаюць, адклаўшы шыццё,
спрабуюць прыгладзіць віхор пабялелы
ці лацкан штармоўкі, цямнейшы штогод...
Каб нішчыць дзяцей, выбіраюць не смелых —

бяздушных, бязродных. Адкуль у іх род?
Пытаюся — словы ж вяртаюцца болем:
і род у іх ёсць, і для матак яны —
сыны, што шукаюць не долі, дык волі
на службе ў чужой, невядомай вайны.
За імі — дзяржавы, дзяржаўныя «біллі»,
што шчодра аплачаны золатам тых,
якія, каб здолелі,— памяць забілі б...
Не здолеюць. Не. Гнеў народаў — святы.
І зброя — магутная самая! — памяць.
Я веру і гэтаму, новаму дню:
не хопіць жывых, нашы мёртвыя ўстануць,
каб мір — і дзяцей! — засланіць ад агню.

## ОДА СВЕТЛАМУ ДНЮ

Не пагаджуся я з пракокамі...
Надзеям — знойдзецца жытло!
Дзень паварочваецца вокнамі
за сонцам, на яго святло.
Плывуць дзіцячых сноў караблікі
праз сонечную цішыню
у дзень, у сад, дзе спеюць яблыкі,
дзе птушкі лепяць вышыню,
і казкі не баяцца вырасці,
і песня з песняй рэй вядзе...
Караблікі дзіцячай шчырасці...
А заўтра — караблі надзей!
Я веру ў іх. І верай рухаю
насустрач іх шляхам прасцяг.
І гэты светлы дзень — зарукаю,
што ў будучыні ёсць працяг.

## СЫНУ

Імкніся ў неба, стань крылом
наступнай высі,
але ў вышэйшай ад былой
не адрачыся!
Яна — табе перадала
сваё імкненне
ляцець і ў вечнасці святла
шукаць натхненне.
Ляцець, пакуль расце абсяг
і лёс не збыўся:
ты выбраў і прадоўжыў шлях
тых, хто разбіўся.
Імкніся вышай, не глядзі
назад — і ўсё-ткі,
усё-ткі іншых не судзі
за ўзлёт кароткі.
Ім проста не хапіла сіл,
сіл або ўдачы...
Гучаць надзеі галасы,
і шлях — не страчан!
І клікаць тых, хто прыме бой,
няма патрэбы:
зноў хтосьці, следам за табой,
ірвецца ў неба.

* * *

У шчасця слоў няма. Якія словы
патрэбны вечнай музыцы святла? —
ліецца, б'ецца павадкам вясновым

навокал, і ва мне, і, як аковы,
спадаюць дні, гады, што пражыла.

Я не жыла! Я ўведвала прывабнасць
адных і тых, адных і тых надзей.
Недасканала — ўсё, ва ўсім —
суладнасць!
Любая ўсмешка вырастае ў радасць,
любая сцежка сонца прывядзе.

І я бягу — лячу! — у пырсках промняў,
без боязі упасці і разбіць
аб дол, аб дзве каменныя далоні,
сваю бязважкасць — каля самай скроні
сцяною ветру вышыня трымціць.

Увысь! — пакуль не скончацца прасторы,
пакуль яны ад музыкі звіняць.
Хто знае шчасце, не збаіцца гора,
хто прагне неба, не паддасца зморы
пасля, калі разбудзіць цішыня.
Калі разбудзяць...

* * *

Набірае моцы голас,
часта з ім не саўладаць.
Кожны міг —
ледзь пойдзе ў колас! —
прагне памяці аддаць.
І, здавалася б, благога
ў тым няма, ды ўсё лягчэй

пагаджаецца трывога
слухаць супакой начэй.
Супакойваюцца словы...
Не, ўжо лепей — немата!
Хлеба
напалам з паловай
час даволі паспытаў,
слоў... І слоў пустых хапала —
душачыся, іх глытаў,
а ўсё быццам мала, мала...
Не, ўжо лепей — немата!
Рыфмы, рух ад дзеяслова,
змест, патэнт на адкрыццё...

Застаецца ж — проста Слова,
і цана яго — жыццё.

* * *

*Валянціну Тарасу*

Нястомна Вадалей
гады пералівае,
усё святлей, святлей
вада яго жывая.
Пад колер слёз спярша
той неназваны колер:
макні любы крышан —
і набрыняе болем.
Пад колер цішыні,
празрысты да знікнення,
пасля, як скінуць дні
з лістотай летуценні.

Дні... Сумныя гады
цярплівага чакання
бяды, бяды, бяды!
Бы хтосьці кінуў камень,
і той ляціць услед,
і нельга прыпыніцца,
глынуць вады — ўвесь свет
п'е з аднае крыніцы.
П'е — і гучыць арган
для тых, хто не нап'ецца...
Глыток жыцця!
Чарга —
як ад радзін да смерці.

* * *

Бяссонніцы палон салодкі...
Кароткі ўзмах, усплёск весла —
зачэрпнуўшы туману, лодка
у раску возера ўрасла.
На міг. Наступны ўзмах — і воля,
насустрач — сінюю! — акіян.
І ні руля, ні зоркі ў долі:
сляпым грабцом — душа мая.
Яна ж не берага шукае,
ад берага імкнецца ў ноч.
Дарэмна цішыня цяжкая
ад ветру рушыцца паўзбоч.
Я веру: ветру не адолець
наканаванай мне мяжы,
дзе пачынаецца раздолле,
дзе лодцы птушкаю кружыць.

Адно баюся: дзень прачнецца,
ацiхне акiяна гул,
спрасонку возера ўсмiхнецца,
а лодка — зноў на ланцугу...

* * *

Гукаю лёс — яму не да мяне:
гады́ — на шалях, рэшта iх малая.
Хоць што гадаць! Не ў хованкi гуляем.
Нiводзiн з iх дарога не мiне.
Нiводзiн з iх дарогу не надточыць —
дайду датуль, дакуль змагу дайсцi.
Гукаю лёс... Няхай бы адпусцiў!
Няхай бы не трымаў! —
куды тут збочваць?
Не горла — голас чуе павадок
i, ўздрыгваючы, моц сваю губляе —
i слова не ўзрывае, аздабляе
прадыктаваны горыччу радок.

## МНЕ СНIЎСЯ СОН...

Мне снiўся сон: чаплялася рукамi
за ўзмежак далi —
пазногцi, уразаючыся ў камень,
яго ламалi.
Я ж зноў i зноў чаплялася —

паглядам
бездапаможным,
хоць ён саслізгваў, і бяссільна падаў,
і боль мой доўжыў.
Хацела жыць! Чаплялася зубамі
за спраты болю —
і адступала, адпускала памяць...
Сцякала поле
за чорным крыкам груганнея ў лагчыну,
на звон крыніцы.
І вось ужо не поле, я, жанчына,
я — доле, ніцма!
Я несла губы, смагу — да струменя,
да слёз Дажбога,
і ведала у гэтае імгненне:
жыццё — дарога,
вось гэтая, пакутная, сляпая,
на звон крыніцы,
з якой душа, ад доўгіх мук слабая,
магла б напіцца.
Адзін глыток, яшчэ, яшчэ... З трымценнем
кранулі губы
не дно — далонь, працягнутую з цемры,
гукнула: «Любы!»...
Маўчаў абсяг. Адно ад губ адхлынуў,
і ў хмарнай высі —
крыніцай, адабранай у лагчыны,
дзень забруіўся.



Сваё, запаветнае, роднае:
паўнеба над хатай, буслы,
ды песня, як жыта, нязводная,
з якой нашы мары раслі,
ды памяць, як кніга, адкрытая
між гэтым і заўтрашнім днём.
Ні горам, ні шчасцем пражытае
не змераць... Жылі і жывём
усім, чым жыццё нас адорвае,
свой крыж несучы, быццам лёс,
хто — ўпарта! — над зорнаю прорваю,
хто — роспачна! — сцежкаю слёз.
І — збітая сцежка ці гладкая,
ледзь крокі ў маўчанне ўраслі:
ўсплывае — апошняю згадкаю! —
паўнеба над хатай, буслы...

## II

*У таямнічым ачышчэнні дзён*
*ад горычы, ад горкага бяссілля*
*адкрыецца: я за цябе прасіла,*
*я — за цябе... працягвайся, жыццё!*



Жыццё і адгарыць
жыццём, а не ўспамінам...
Хвілін цяжкая ніць
не рвецца — клінам, клінам
над самай галавой! —
чуваць, як б'юцца крылы,
як хваляю жывой
накрыла, падхапіла
і неба, і мяне,
і шлях — само світанне.
Калі гэта — раней?
Хай толькі моцы стане
зрабіць няпэўны крок,
наступны крок — лягчэйшы.
Зазелянеў мурог,
пяе лісцё алешын.
Прамень, прамень, прамень! —
і раскашуе сонца,
і вечнасць, а не дзень,
асветлена да донца.
Што вызначана мне,
не ўведаць — мала? Многа?
Мінае ўсё, міне —
і не міне нічога.
Зазелянеў мурог,
пяе лісцё алешын.
Дзядок, сівенькі бог,
ідзе мяжой няспешна.
Жаўрук
грудок зямлі
пітуе з выссю песняй.
Жыццё... І адбаліць —
вось гэтым вечным,
веснім!



І за зло —
хай дарага! —
заплачу дабром,
толькі б сярод ворагаў
не шукаць сяброў.
Толькі б верыць першаму
поціску рукі,
калі плакаць —
вершамі,
змогшы зман цяжкі.
І на здраду здрадаю
не адказваць, жыць
верай безаглядпаю,
ёю даражыць.
Толькі б радасць помніла:
неба адцвіце
сонечнымі промнямі —
месяц на куце!
Сонца... Месяц...
Крыўдаю
іх не патушыць!
Прыйдзе час — развіднее
ў кожнае душы...



Радаводная шчасця... Калі,
кім, чыімі радкамі пачата,
невядома: пад мноствам пячатак
праступаюць абрысы зямлі.

Той зямлі, у якую вякі
паўрасталі магіламі продкаў,
адпусціўшы лятункаў чародку,
абмяняўшы на жвір медзякі.

І лятункі на крылах сваіх
кружаць неба ўсё вышай і вышай,
а на жвіры, асветлены цішай,
новы дом вырастае штоміг.

Новы дом, новы сонечны дом,
у якім нараджаюцца дзеці,
сад пяе, распускаецца вецер,
словы ў жмуркі гуляюць з дажджом:

— Дожджык, дожджык,
сыпані!
Я памчуся на кані
за табой па полі
ў сіняе раздолле...

Радаводная шчасця... У ёй —
ні радка пра адвечнасць пакуты.
Толькі мара! Ды сплецены з руты
той вянок у рачулцы сівой,
што далей адплыве, у вякі,
дзіўным ззяннем мой твар асвяціўшы...

Колькі чуць яшчэ мне, як калышуць
лёгкі след яго хвалі ракі?

# ТЫСЯЧА ПЕРШЫЯ ДЗВЕРЫ

## Дыялог з Эн Сэкстан *

### 1

«Тысяча дзвярэй назад,
калі я была адзінокім дзіцем...»

Чарговы дзень,
чарговы далягляд,
чарговы ўзрост...
Ні кроплі недаверу
да лёгкасці,
з якою паўздагад
нябачны хтосьці адчыняе дзверы.
Адчыніць. Пройдзеш. За спіной — сцяна.
А дзверы зноў наперадзе, ў паўкроку
(паўкроку — невысокая цана
за небакрай, што здасца больш высокім).
Навошта азірацца на сцяну?
Яна расце. Яна ўпадзе ў той момант,
калі, згадаўшы даўнюю віну
перад сабой і ўжо забытым домам,
назад памкнешся, рукі разаб'еш
аб чорныя асклізлыя камені.
Два адзіноцтвы — і ніякіх меж
паміж!
Жыла — і ўсё, напэўна, ўменне.
Чарговы крок. Чарговая з надзей
на адкрыццё... Ні кроплі недаверу
да лёгкасці, з якою ў новы дзень
няўмольны хтосьці адчыняе дзверы.

---

* Эн Сэкстан — вядомая амерыканская паэтэса. У кожнай яе паэме, як адзначала крытыка, выяўляецца драматычнае сутыкненне жанчыны з капіталістычным грамадствам.

## 2

> «У сне ніколі не бывае восемдзесят...»

Вясна. Вакол абводжу
чароўны круг, у круг
ступаю асцярожна,
а час, яго ланцуг,—
распаўся на пярсцёнкі!
Адзін. Другі... Гады
раскочваюцца звонка
пад ногі маладым.
Я для сябе прасіла,
я пра сябе...
Усё,
на што хапіла сілы,—
падумаць: гэта сон.
І ні імгнення потым
не сумнявацца больш.
Сон... Ён вяртаў употай
стары, забыты боль.
Бы не хацеў прыгадваць,
што толькі сон, а ў сне
зусім не я, а радасць
блукае па вясне.

## 3

> «Я абяцала табе любоў. Час не можа забраць гэта...»

Што можа абяцаць паэт?
Здаўна ўвасобленая ў слове,
нічым, апроч самой любові,
любоў не ўзбагачае свет.
У слове...
Не падымеш воч:

у гэткім зношаным уборы
адно далонь цягнуць з пакорай
да кожнага, хто пройдзе ўзбоч.
Адно чакаць, што хтосьці з іх,
каб адкупіцца ад папроку,
на момант запаволіць крокі,
зглыне разгублены уздых
і, ўжо намацваючы грош,
раптоўна ўбачыць на далоні
дар, большы за жыццё! —
успомніць
вясну, ружова-белы дождж,
дзяўчынку з сонцам у вянку,
сябе, шчаслівa маладога...
Што можа абяцаць дарога?
Жыццё — ў любога на вяку.
Што ж да любові, то яна,
паабяцаўшы вечнасць свету
і ім забытая —
паэтам
стаіць на скрыжаванні дня.
Што можа абяцаць паэт?

4

«Кожны, хто ўва мне,— птушка.
Я б'ю ўсімі сваімі крыламі...»

Я — стаю на сваім:
сэрцу крылаў не трэба.
Што ж да неба, у неба
ёсць свае салаўі.
Апяюць, адпяюць
і заход, і світанне,
і сябе — як не ў стане
заглынуць каламуць...
Сэрцу — больш не змагчы.

Распалохае птахаў,
згубіць нітачку шляху,
стрэўшы зорку ўначы.
І не вернецца ў свет,
згаслы, іншы раптоўна.
Як любові — бяздомнай?
Хто гукне ёй услед?
Не, стаю на сваім:
крылы — птушкам і зоркам,
неба...
Надта ўжо горка
размінуцца і з ім!

5

«Я стамілася быць жанчынай...»

Белая сукенка выпускніцы,
белы вэлюм на сцяне начы,
не вясельнай, той, якой не спіцца...
Успамінам нельга памагчы.
І дарма яны не адпускаюць
ад сябе, ссівелых, ні на крок:
не мінулае вяртае памяць,
а нязбытае... Забыты ўрок!
Вось і кружыцца пад плач аркестра,
ні на год не вырасшы, любоў,
вось і доўжыцца любая вестка
з маладосці — ўзлётам галубоў.
Галубы! Іх так святочна многа
ў вышыні, над пройдзеным жыццём,
што, здаецца, павярні дарогу —
і размотвай з дзён, як з верацён.
Аніводнай хмары на прыкмеце,
аніводнай крыўды за сабой...
І танцуе пад уздыхі медзі,
слёзы не ўціраючы, любоў.

## 6

«Я падарыла яму кветкі,
а ён збудаваў аэрапорт...»

Аэрапорт чырвонымі слупамі
сваіх агнёў падпёр сцяну дажджу.
Чакае. Ў ноч, нібыта ў храм, ступае
жанчына з кветкамі... Я не гляджу.
І бачу твар яе, дажджынкі ў грыўцы,
пагляд бяздонных воч, сляпы пагляд.
І знаю, ўсё павінна паўтарыцца:
сустрэча наша, ўздыхі неўпапад,
абвінавачванні, абдымкі, слёзы —
хто з нас каго страчае, зразумей!
Абедзве зноў адчуем: позна... Позна.
І ноч цямнейшая. І дождж — спарней.
Агні аэрапорта немагчыма
заліць — пялёсткі кветак абаб'е...
Уздрыгваю: перада мной — жанчына,
і ў ёй, сляпой, зноў пазнаю сябе.

## 7

«Ёсць жанчыны, што выходзяць
замуж за гаспадаркі...»

Без дома нельга. За бяздомнасць судзяць,
не запытаўшыся, чаму твой дом
цябе пакінуў. Людзі — толькі людзі.
Кладуць у сцены камяні з кладоў,
пячною глінай месяць прах дзядоў —
будуюць свет, упэўненыя ў цудзе.
А цуд не адбываецца. Папросту
уранку хата комінам дыміць,
з суседкамі памерыўшыся ростам.
Да месца ліштвы, ўзоры акаліц...
Ні зор, ні зацугляных навальніц,
ні крыл, якія зацяняюць пространь.

І што прынаджваць прывіды? Вякамі
за дах, за схоў ад ветраных дарог
служылі людзі... Сёння хто не Каін? —
як цуд (сябе!) ў сабе забіць не змог,
ніводзін дом не пусціць на парог.
Без дома ж нельга. Мара пачакае.

8

«Толькі аднойчы я зпала,
навошта жыццё...»

І смерць — гэтаксама дарога...
Спазнаю яшчэ пры жыцці:
бязмежжа, не знаючы змогі,
імкнецца ў абодва канцы.
То ўслед жураўлінай чародцы,
то ўслед успамінам — і я
стаю акурат у сяродцы,
дакладней, спрабую стаяць.
Не-не і надломіць калені
нязнаны мной страх за сябе —
магла б, урастала карэннем
у цень свой, глыбей і глыбей.
Ды гэта не цень, а закалец
пяску, які ссыплюць у дол...
Крычаць журавы і знікаюць.
Маўчаць успаміны вакол.

9

«О зорная, зорная ноч!
Так, нібыта я хачу памерці..»

Жыві ці памірай... Вялікі выбар.
А выбераш чамусьці непакой,
пакуту, ледзь асветленую німбам
спрадвечнае заступніцы людской.

Хай не было яе, і німб — падробка,
і, ўрэшце, верылі не ёй — жыццю,
ўсё лепей, чым лічыць жыццё заробкам,
што абяцае сытную куццю.
Куцця куццёй. Ёй не накорміш душы.
А чым? Калі б уведаць гэта «чым»!
Не год, не два каменнямі падушак
вымошчваем бяссонніцу ўначы.
Не век, не два шукаем шлях да неба,
хоць знаем: неба ў кожнага сваё.
Жыві ці памірай...
А можа, трэба
і словамі не пазначаць краёў.
Краёў няма. І ў нашае нязгодзе
жыць гэтак, як з багамі, без багоў —
разгубленасць: дзеля чаго прыходзім?
Калі мы ўведаем, дзеля чаго?

### 10

«Як бы там ні было, ўсё магчыма,
і сляпы гэтаксама бачыць...»

І магчымае — немагчыма.
А каб весці праз сны пашу?
Натыкаючыся вачыма
на агні — асляпляць душу?
Мкнуцца з думак пад дождж каменняў?
Шкадаваць тых, хто іх падняў?
Невялікае суцяшэнне,
што і ты, што не ты адна
не давала на споведзь згоды.
Вось ён, суд, твой вярхоўны суд
(з гурту выбіцца — не заўсёды
апярэдзіць, пакінуць гурт):
прамаўляеш — ніхто не чуе,
моўчкі плачаш — не бачаць слёз,

ноч гукаеш, смугу начную,
каб прыкрыць не сябе, свой лёс,
а табе крычаць: «Ты жанчына!
Ты сама выбірала боль!..»
І магчымае — немагчыма.
А каб болем назваць любоў?
Апраўдаўшы свет сваёй смерцю,
паміраць у ім зноў і зноў?
Я не знаю.
Мне не адцерці
пах бяды, пах крыві са слоў.

## 11

«Усе пакінулі мяне, апроч
маёй музы, маёй добрай нянькі...»

Задумлівасць? Роздых душы?
Пакутнае нянькание з болем?
Зноў супраць сябе ж саграшыш,
адно пажадаўшы патолі.
Патоля, адкрыўшы свой твар,
абразіць гідлівай усмешкай.
Пагляд — не чароўны ліхтар,
яна не абернецца сцежкай.
Куды ні памкнешся — тупік,
каго ні прыгадваеш — здрадца.
Не вопыт даверлівы знік —
давер... Не ратуе і праца.
Бяссільная штосьці змяніць,
ты цягнеш, выцягваеш думку
у чорную, мёртвую ніць,
якою спавўеш сабе рукі.
І нельга парваць гэту ніць,
і нельга гукнуць у былое!
Чуваць, як балюча звініць
вірлівы прасцяг над зямлёю...

## ЧАС

— Я хлебу не жадзён! —
свядома лгаў галодны,
і круг знямоглых дзён
не замыкаўся годам.
Сяўба — жніво — сяўба...
Ні зерdescribed — у скрыню.
Капусту пасярбаў —
і спі ці на адрыне
смакчы ўсю ноч лядзяк
аблюбаванай зоркі,
зглынуўшы, як няўзнак,
гушчэчу думак горкіх...
— Я славе не жадзён! —
свядома лгаў калека.
І слухаў, слухаў звон
жалезных крокаў веку.
Вайна — клады — вайна...
Ні споміну — на здымак.
Адчай не закранаў
палеглых маладымі.
Расплылі журавы,
як саван, змрок навіслы...
Калека, ды жывы!
Ды значышся у спісах!
— Я шчасцю не жадзён! —
свядома лгаў нябога,
а з колькіх верацён
не разматаў дарогу:
адчай — любоў — адчай...
Ні дома. Ні свабоды.
Праводзіш — зноў страчай
нягоды, непагоды.
А шкода толькі дзён,
якімі шлях свой мераў...

— Я хлебу не жадзён,
я славе не жадзён,
я шчасцю не жадзён! —
свядома лгаў і верыў.

* * *

Не шлях, а лёс вядзе...
Трывогі не хаваю.
Ну, што я без людзей,
іх роднасцю жывая?

Душа перацячэ
ў прасцяг — і ў ковах жалю
цяжар гадоў з плячэй
не скіну ў пыл зляжалы.

А ён зняволіць, жаль,
усё мне прыгадае:
і сонечную даль,
і раніцу ў той далі,

і смех званцоў, і цуд
хлапечага прызнання.
І сон. І дом. І суд.
Усё! Усё дазвання.

І не пачуе слёз
за ліўнем дзён вясновых.
Не шлях вядзе, а лёс —
пакутным шляхам слова.

## ТЫ СНІШСЯ МНЕ, НЯМІГА!

Дажджы. Дажджы дзяўбуць асфальт халодны,
што ўкрыў цябе, твой бег... Рака мая,
ты снішся мне. Глыбокай. Паўнаводнай.
Такой, якой не знала цябе я.
Ты снішся мне! Ступаю над вадой,
сачу за аблачынкай, што сплывае...
Здаецца, й не была я маладой.
Не помню. Не былое ажывае,
а старадаўняе — за шмат вякоў
ад гэтае сумотнае сустрэчы:
бальшак да Замчышча, агні — вянком,
плач паланянак, голыя іх плечы...
Дагэтуль адчуваю на плячы
апёк удару, потым — губ уладных,
хоць проста выграбала з той начы
вугольчыкі згарэлых іх паглядаў.
Былое... Што ў сапраўднасці было?
Купальскіх песень карагод? Чужынцы?
Праткнуты дзідай крык? Пажар? Палон?
Кастры паўстанцаў? Кроў на сцежцы ў жыце?
Што змылі твае хвалі ў тыя дні?
Што мне баліць? Хто мне дыктуе словы?
Ледзь толькі ўзыдуць згадкі з цішыні —
знікае рыса між былым і новым...

•

1

Смага памяці маёй...
Нахіліцца б і напіцца!
Ды раптоўна ўсе крыніцы
захлынуліся крывёй.
І снапы, снапы, снапы! —
берагі абодва ўсланы,

хоць мячы, а не сярпы
у руках жняцоў старанных.

І мячам не заржавець:
так далёка да дажынкаў,
што лягчэй сустрэнеш смерць,
чым знітуеш дні сцяжынкай.

Хто — чужынцы? Хто — свае?
Хто я? Плач на часткі рвецца,
і яго адносіць вецер —
і назад не аддае.

Не аплакаць гэты дзень
сэрцу — як толькі жывое?
Брат — на брата, вой — на воя,
зноў і зноў з мячом ідзе!

О, мячам не заржавець:
так далёка да дажынкаў,
што хутчэй сустрэнеш смерць,
чым знітуеш сны сцяжынкай.

Потым кожнае са слоў
час зацята паўтарае...
Вой — на воя. Зноў і зноў.
Я — між імі. Я — сястра ім.

2

Песні-плачу стагоддзямі ў полі кружыць:
— Ці не ваш маладзец там забіты ляжыць,
эй-ю, там забіты ляжыць?
Цераз ручкі яго ды трава парасла,
эй-ю, ды трава парасла,
цераз ножкі яго ды змяя прапаўзла,

эй-ю, ды змяя прапаўзла.
Праз галоўку яго ды арол праляцеў,
эй-ю, ды арол праляцеў...

Песня плача па ўсіх, хто ўміраць не хацеў.

3

Смага памяці жывой...
Нахіліцца б і напіцца!
Ды спаліла навальніца
дрогкі бераг пада мной.

І масткі, масткі, масткі! —
праз агонь, па мёртвых целах,
па цяжкіх татарскіх стрэлах,
за праклёнам, напраcткі.

Пляц насаджаны на кол
разам з небам. Дня не будзе.
Без'языкі звон не збудзіць
далячыняў навакол.

Ўсе — ахвяры. Ўсе — ў агонь,
у касцёр! Не чую плачу.
Чую боль. Цяжкі. Гарачы.
Там, дзе жыла ўздула скронь.

Там, дзе ўспыхнула каса,
наматаная на дзіду...
Крыўда? Значна больш чым крыўда.
Боль — стагоддзі пранізаў.

Лютавала татарва...
Покуль кожны сваё ліха
у тваёй вадзе, Няміга,
з татарвой не пахаваў.

4

— Ляцеў воран
з чужых старан,
пачаў галасіці...

Новы вораг
з новым горам
прымушае біцца.

Здратаваная зямелька
не народзіць
жыта.

Хоць у яму,
хоць у пельку:
мужыкі — пабіты.

Крыжакі,
жаўнеры, шведы...
Лічыш смерці, лічыш!

Вораг прыйдзе, -
гора — следам.
Волі не пазычыш!

Волю
кроўю здабываюць,
льецца кроў і льецца...

У гарачцы
б'ецца памяць,
ледзянее сэрца.

5

Смага памяці маёй...
Нахіліцца б і напіцца!
Ды пагляд вады баіцца,
пачарнелай, нежывой.

З Троіцкай гары сюды
ручайкамі кроў сцякае.
Я — ў натоўпе. Смерць чакаю.
Стрэл чакаю — праз гады.

Мушу! Змушана... Ў вяках
адгукаецца злачынства:
вунь яны стаяць, фашысты,
у чакання па баках.

Ведаюць: калі ўпаду,
ціршыню падкамячыўшы,
ты, Няміга, закалышаш...
Смерць — у іх на павадку.

Так. І ўсё ж слязу маю
прыгадае вольны вецер.
Хай даўно прабіта сэрца,
я не падаю. Стаю.

Як даўно прабіта сэрца!

Што змылі твае хвалі ў вечны змрок?
Што мне баліць? Чаму я з болем згодна?
Не боль — цябе прысыпаў жвір халодны.
А твой выток — жыцця майго выток.
Мне не забыць ніводнага світання,
забітага на беразе тваім.
Усё здаецца: плачуць салаўі...

Усё чакаю: кожны паўшы ўстане...
Устане — і не знойдзецца вады
абмыць
зямлёй прысыпаныя раны...
Руплівы час усё рабіў старанна:
шлях, магістраль —
там, дзе раней, заўжды,
ты бегла, то трывожна, то лагодна
ўзіраючыся ў водбліскі святла.
Ты снішся мне, Няміга! Паўнаводнай.
Такой, якой, магчыма, й не была.

## III

*Сцежкі сэрца...*
*Здавалася б, дзе ўжо дзе,*
*а тут не сустрэнеш*
*разгубленага незнаёмца!*
*Пытаецца,*
*куды якая сцежка вядзе...*
*А што адказаць,*
*калі ўсе*
*вядуць да кахання?*

* * *

Жаданне... Боязь атрымаць жаданае...
Святло кахання... Боязь пакахаць...
Тугу ў душы, слязьмі сваімі п'яную,
не ўмею, не магу закалыхаць.
Спрабую пець, злуюся, угаворваю —
яе, сябе, знясіленую ноч:
дакуль блукаць
над гэтай зорнай прорваю
адчаю ўзбоч і спадзявання ўзбоч?
Дакуль яшчэ? Дакуль?
А крык вяртаецца
пчымлівым водгуллем чужой бяды,
і новы круг бяссоння замыкаецца
да раніцы — на многія гады!
Шкада не сэрца, не жыцця імклівага,
а тога недагледжанага сну...
У цэлым свеце не знайсці шчаслівага,
а свет сабраўся святкаваць вясну.

* * *

Шэры колер — патушаны сіні.
Хто яго і калі патушыў,
не спытаеш — з прадоння душы
выцякаючы позіркам, стыне.
Стыне, студзіць усмешку раней,
чым яна гэту стынь пераможа.
Сталасць — старасць...
Спярша асцярожна
іней локан на скроні кране.

А праз міг, у адбітку люстраным,
не пазнаеш сівую сябе —
адштурхнеш яго, шкло разаб'еш,
дзьмеш разгублена неяк на рану.
Гэтак хутка? Вясна ж на двары!
Гэтак рана? Гады ж суцяшалі...

Завяжу — і развязваю шалік,
сіні-сіні, што ты падарыў.

* * *

Я выжыла. І не чакаю больш
цябе, цябе, цябе! Ганю спакусу.
Магу — вучуся! — перасільваць боль
ад дотыку чужой рукі ці вуснаў.
Рассекшы свет на свой і твой
шашой,
імклівым рухам, хай яшчэ нясмела,
магу — спрабую! — гаварыць з душой,
зусім нядаўна мёртвай, скамянелай.
І ціха адгукаецца душа,
і страта не здаецца непапраўнай.
Туга была. Туга была спярша.
Ты потым быў. Ты развярэдзіў рану.
Ты знаў: не першую бяду страчаю...

Зашкліла ноч усе палонкі сноў —
я выжыла, я выжыла ізноў,
хоць гэта страшна: выжыць для адчаю.



Так не бывае. Я ўвесь час бягу
назад, кудысьці ў памяць,
ва ўспаміны.
Нібы асуджана. Нібы павінна.
Нібы знямогай боль перамагу.
У справы, ў тлум! —
ледзь толькі ноч міне,
ад спраў, ад тлуму! —
ў цішыню начную,
аглушаная бегам, сэрцам чую
не голас твой, тваю тугу па мне.
Так не бывае. Так не можа быць!
Насустрач ветру полымя ірвецца —
і абгарае, выгарае вецер
наскрозь, і я не знаю, што рабіць.
Не вецер гэта, а маё жыццё,
завабленае, зведзенае воляй,—
сама палю і прагну, прагну болю:
не небыццё пужае, забыццё.



Гэта лебедзі — гэта не людзі! —
разбіваюцца аб тугу,
калі клікі неба не збудзяць,
што ж я голас свой сцерагу?
Ён жа звыкла паасцярожнеў,
ледзь учуў паблізу бяду.
Ён жа знае: гукаць няможна —
надта высака упаду.

Ўспухнуў болем,
не выпхнуць з горла,
не зглынуць са слязьмі, не сцяць.
Гэта лебедзі...
Ў шчасці, ў горы —
не сысці з дарогі жыцця.
А ў дарогі — звыклыя межы:
першы крык — і апошні ўздых.
О, калі б ад мяне залежаў
хоць адзін, хоць кароткі міг!
Я, не марачы больш аб цудзе,
разагнала б над ёй смугу:
гэта лебедзі — гэта не людзі! —
разбіваюцца аб тугу...

* * *

Іншым вечнасць зарукай,
мне і ночы стае...
О, спазнаная мука
слухаць рукі твае!

Слухаць нават не дотык —
набліжэнне іх, рух,
захлынацца пяшчотай:
чорны круг — белы круг!

Не ўтрымацца, не ўспомніць
ніякую з замоў...
Свет жа, раптам староннi,
зрушыць гмахі дамоў,

ўсімі вокнамі разам
ярка высвеціць нас —
не схавацца! Абраза —
гэта думка штораз.

Хоць параніць не думка,
а бяссілле яе...
О, салодкая мука
слухаць рукі твае!

* * *

Ты і я... Лёс не мог памыліцца!
Дык чаму тады збег? Як хлапчук,
насваволіўшы, раптам баіцца
не папрокаў, а слёз уваччу?
Дык адкуль тады слёзы? Не плачу,
а гарчаць у душы і гарчаць,
бы яны, а не зоркі пазначаць
ноч, што ранак не выйдзе страчаць.
І чужая ж трывозе, чужая,—
што ж усюды за ёю хаджу?
Вось ён, ранак! Насустрач спяшае,
абыходзячы лужы дажджу,—
і ні ўсмешкі, ні знаку якога,
што ён твой,
што ён мой,
што ён наш.
Абміне — і рванецца дарога
прэч, паўз нас,—
хоць упоперак ляж!

Вось ён, ранак! А сэрца ў знямозе
спатыкаецца, горка шчыміць.
Я ж імкнуся — чужая трывозе! —
не сябе, а яе бараніць.

* * *

Нішчымніца... Паветраныя замкі,
што мой, што твой, пакінуты, пусты,
плывуць у ноч,
у ветраную стынь,
адвеславаўшы хмары-выразанкі.
І стомленая думка ўпершыню
не мкнецца ўслед: дарма спрабуе лета
аддыхаць, засвяціць пялёсткі кветак,
апалыя на золку ў цішыню.
Дарма на песню івалгі спяшае
узмежкам дня
наступны, новы дзень,
мо ён — той дзень,
што ў гэтай чарадзе
зацягнутае шэсце завяршае.
Ускінута труба. Маўчыць труба...
І стомленая думка вінавата
даводзіць:
святы ёсць, наступяць святы!
Нішчымніца... Абрыдлая журба...

* * *

Піла з крыніц і не магла напіцца:
не губы смяглі, словы на губах.
Душа шукала чыстую крыніцу
другой душы — і не стамляўся шлях.
І спатыкаўся шлях — то ад паглядаў
тых, хто насустрач і паўзбоч спяшаў,
то аб каменні год і тыя здрады,
якіх не выракалася душа.
Хапала мне адной пакутнай веры,
што ты жывеш,
што ёсць ты недзе, ёсць,
што ты мяне чакаеш! — я наперад
заклала за сустрэчу маладосць.
І ці на шчасце ты мне, ці на згубу,
у лёсу не спытала — ўсё адно!

Цяпер не словы смягнуць,
смягнуць губы,
і зноў канца чаканню не відно.

* * *

Думкі паслухмяна ткуць са слоў
вырыс, вобраз, успамін...
Да д'ябла!
Богу ў твар я кінула б той яблык,
што, сарваны Евай, зноў і зноў
вырастае, на спакусу іншым.
Бач, прыдумаў: за любоў — душу!
Быццам нечым перад ім грашу.

Не, бяры, шаноўны, трохі вышай:
я перад сабой грашу! Не тым,
што дасюль не ведаю любові,
што шукаю і знаходжу ў слове
ўсё, жыццём развеянае ў дым.
Як не тым, што на чужы агеньчык
забрыдаю радасць адагрэць —
а яе выштурхваюць у плечы,
мне, пагаслай, даючы гарэць.
Сумна ведаць, помніць штохвіліну:
шчасце — ёсць!
Жыву ж нібы... нібы
скрозь ніхто ніколі не любіў,
а кусаў ад яблыка і гінуў.



Ноч, бяссонне маё дапіўшы,
не ўзляцела. Відаць па ўсім:
давяраючы мне і цішы,
будзе спаць на плячы — насі!
А куды мне з ёй? Першы стрэчны
за вядзьмарку прыме... Не, не,
гэта вусцішна. Недарэчна.
Дзень — абыдзецца без мяне.
Абыходзіўся ж! І паглядам
не шукаў мой цень за сабой,
калі ў мулкіх каменнях згадак
я хавала свой сум, свой боль.
Абыходзіўся ж! А палохаць
тым, што шлях паглыне агонь?..
Паглынаў. І я зноў, самохаць,

новы шлях вяла наўздагон.
Так і сёння. Няхай са мною
размінецца — абы адбыць!
Ноч шкадую — сляпой савою
да пляча прыпала і спіць.



Як мала закаханых на зямлі!
Ледзь толькі зацвілі ўсе кветкі разам,
у раніцах, нібы ў крыштальных вазах,
расстаўленыя скрозь,— і адцвілі.
Яшчэ струменіцца салодкі пах
і за шматкроп'ем пыльных незабудак
чытаюцца не літары прысуду —
апёкі пацалункаў на губах.
Яшчэ, па звычцы, цягнецца рука
крануць з пяшчотай кветкі,
іх пялёсткі,
і свет здаецца не настолькі жорсткім,
каб на мяне за шчасце наракаць.
А мне даводзяць: адышло цяпло,
пасохлі кветкі...
Што ж тады са мною?
Каб так шчасліва доўга жыць вясною,
што незаўважна лета адцвіло!



Навошта я — паэт?
Калі б ты знаў, як мала
таго, што цэлы свет
на крылах слоў трымала
не я — не я адна!
Калі б ты знаў, як проста
нашчэнт не бачыць дна,
кідаючыся ў прастрань.
Абы гучаў, гукаў
хоць чыйсьці клік трывожны —
душа, а не рука
лавіла водгук кожны,
не літасці нябёс —
прасіла мукі новай...

І зноў ламаўся лёс —
і выжывала слова.

## РЭКЛАМА

Апаленыя крыльцы матыля
за шклом вітрыны...
Дзіўная рэклама! —
Фінал, фінальная карціна драмы,
зайграпай, вечнай, як сама зямля.
Ну, хто не знае сёння, што ў агні
згарае незгаральнае, здаецца,
давер, даверліва сляпое сэрца?
Хто прысак не качаў у далані?
А тут... Тут рэкламуецца агонь!

І людзі прыпыняюцца, падоўгу
стаяць, глядзяць, хаваючы трывогу
за ўсмешкамі — адзін ад аднаго.
А тут... Тут, разыходзячыся з днём,
сцвярджаецца бяздумнае імкненне
успыхнуць, на кароткае імгненне
адчуць сябе ўсясільным тым агнём.
Няхай згарэць! — ніводзін з міражоў
стаць явай надакучлівай не ўмее...
Расце натоўп. Ніхто не разумее,
што здарыцца —
што здарылася ўжо.

* * *

Сапраўднасці хачу
ва ўсім, ва ўсіх. Упарта
прутком абруч качу —
абшар маленства! — ў заўтра.
Хай маладосць услед
гукае: прыпыніся!..
Хай сталасць...
Прагне свет
лятункаў тых, той высі,
той веры, што раней,
чым памяці, не збуду...
Чакаючы мяне,
жыццё чакала цуду.
Што згадваць горкі хлеб
старых памылак, слёзы,
сляпы, няроўны след
сярпа па ўзмежку лёсу?

Павінен збыцца час
лятункаў, самых светлых —
дзіцячых! — што ад нас
перадаюцца свету.
Павінен!

* * *

Акрыленасць —
упэўненасць у тым,
што разбяжышся, ўчуўшы кліч далёкі,
адпусціш сцежкі пасак залаты
і паплывеш, і паплывуць аблокі —
на крылах дня, на крылах цішыні,
на крылах песні! —
над дзівосным светам,
дзе промні сонца — быццам карані
блакітнай кветкі, вырашчанай ветрам.

І можна разгайдаць яе рукой,
і слухаць, слухаць музыку прасторы,
што хлыне ўвысь, збудзіўшы неспакой
нябачных
і таму варожых зорак.
І ў музыцы, ў бязмернасці яе
адчуць душы ўласцівую бязмернасць.
Акрыленасць!
Мне часам не стае
упэўненасці: ўсё — душы даверыць...

5 Зак. 537



Ноч заварвае чорную каву,
чорны дзёгаць бяссонных хвілін,
ледзь прыгубіўшы, штосьці пра славу,
пра пакутніцтва шэпча зямлі.
А якая ў тым слава — памерці?
Дзень прачнецца папросту раней,
каб паспець тую плямінку сцерці,
што зашэрхне крывёй на сцяне.
Разагнуўшыся — гэткага гора! —
нават не прыгадае імя,
што насіў толькі ўчора. Учора...
Ноч нясе шкадаванні дарма:
я прымаю і гэту пакуту.
Веру ў пеўчую долю сваю
і па кроплі — па слову! — атруту
з пераможнай усмешкаю п'ю.



Чакаю слоў, чужых, растайных слоў:
мо прынясуць палёгку, вырвуць з сэрца
пяшчоту, што ўбіраецца у квецень,
паверыўшы якомусьці са сноў.
Забыўся сон. Не збыўся. Ёсць жыццё,
яго шляхі, нарэшце,— будні проста,
з якімі не ўпраўляюся з узростам!

А тут — за квеценню ды за лісцём
не тое што шляхоў, не разглядзець
бяды, якая стукаецца ў дзверы

пасланніцай даўно пазбытай веры
у выкупленне, што прыносіць смерць.

Была б вясна! Быў сон. У сэрцы ж зноў
з такой сляпой нястрымнасцю буяе
пяшчота,
бы не чую, бы не знаю
несказаных і прагучалых слоў.

## АКРАВЕРШ

Замоўных, таямнічых слоў
Твайму бяссонню не шаптала.
Адданай не была. Не стала.
Баялася змыліцца зноў.
О, гэта боязь новай страты!
Юнацтва — не ўнікала платы...

Малюе памяць, дзень пры дні,
Адкрыты небу ўзлобак лета,
Язычаскія знакі кветак,
Ламаных пры начным агні.
Юродстваваў, спяваў агонь —
Блукала сэрца ў ковах страсці...
О, гэта боязь страціць шчасце
Ўсяго ў паўкроку ад яго!

* * *

В районах землетрясений
в дома не верит никто.
*С. Кузнякова*

Будую дом, будую цішыню,
не слухаючы нараканняў сэрца,
даверыўшы застыламу агню
сваё жаданне — неяк адагрэцца.
Ён прарасце, агонь! — і пад ільдом,
ён запяе! — ледзь сілы набярэцца.
Не веру ў дом, і ўсё ж будую дом,
і намаганне марным не здаецца.
Ну, як зусім без дома, без страхі,
хоць латанай аблокамі, ды ўласнай!
Без гэтай звыклай для жыцця вяхі
узбоч дарогі, стомленай заўчасна?
А сэрца...
Хай апёкі гоіць час!
Ад раніцы, ад будучыні ўпотай,
будую дом — ужо ў каторы раз,—
каб пасяліць агонь,
што знішчыць дом той.

* * *

Здавалася б, ні гор, ні скал.
Да гарызонта стыла ціша.
А шлях упарта высякаў
прыступкі вышай, вышай, вышай.
Не цішу — валуны ільдоў
калолі пругкія удары,

і чараду за чарадой
з расселін выпускалі хмары.
Яны — ўжо птушкі! —
                    як раней
гняздзіліся на голлі ранку,
дарэмна гнёзды чыйсьці гнеў
намацваў джаламі маланкі.
Прыступка! —
                    ранак рос і рос
праз пакалоны лёд паветра,
прыступка! —
                    лёгка дыхаў лёс
пранізлівым вышынным ветрам.
Шлях так упарта высякаў
прыступкі,
                так высока ўзносіў,
нібы не мне, а ўсім вякам
за мною
          здабываў нябёсы.

* * *

Дзіўлюся мужнасці жыцця:
адно ўвагні на момант плечы —
і захліснуць валы сінечы,
і вечнасць згубіць свой працяг.
Працяг у новым,
                    чымсьці іншым,
але жывым, жывым, жывым!
Я чую: парасткі травы
дзяўбуць рассыпаную цішу.
Калышуць крылы жураўлёў

дымы
над дахам адвячорка,
і з воблака, нібы з пагорка,
святло сцякае ручаём.
Я чую — прагну чуць! — здаецца,
сама агучваю прасцяг —
не словамі — дыханнем сэрца,
удзячнага за дні жыцця.

* * *

За абыякавасцю ўсмешкі
хаваю роспач: не абшар,
не дом — звычайную начлежку
не знойдзе аніяк душа.
Не дождж, дык вецер,
не завея,
дык холад позіркаў людскіх!
І сцяцца, меншай стаць не ўмее:
любы прахожы кожны міг
яе штурхнуць, ударыць можа
адно за тое, што душа,
што цягнецца бездапаможна
да іх — не па сухі крышан,
па дабрыню, па цёплы позірк,
па жменьку нейкіх танных слоў,
што вызваляць сляпыя слёзы
і вернуць ім шматфарбнасць сноў.
І я... Я не магу ўступацца.
Ну, як абараніць душу?
Усміхаюся. Не прызнавацца ж
самой, што боль яе нашу!



Шлях лёсу... Я шляху не веру.
Па ім іду ўжо столькі дзён
за далеччу, ў жыццё, наперад,
а ўсё забыты дзень відзён.
Відзён — да шчэрбінкі на твары,
да нейкіх растаптаных слоў,
да ўсмешкі, што ўзламала хмару,
каб ліўнем адагнаць буслоў.
А тыя зноўку прылятталі
да рук,
што голлем прыраслі
да неба, а гняздо гайдалі...
Дзе сёння гэтыя буслы?
Забыты дзень. Забыты спомін.
Спрабую вузел рук — рукі! —
падняць, падставіць цёплым промням
і не магу. Такі цяжкі...

## СОН

Месяц у пакой мой уваліўся,
выціснуўшы шыбіну ілбом.
І смяяўся — сіні смех клубіўся,
намярзаючы на столь ільдом.
І схіляўся — набліжаў адбітак,
закаваны ў лёд, у гэты рух:
цела з бессаромнасцю, адкрыта
ззяла пад цяжкім спалохам рук.
Рукі бляск гасілі — цела ззяла,
перад імі чуючы віну.

І, пазнаючы, не пазнавала
я таго, хто маладосць вярнуў.
Месяц... Лёд на паніжэлай столі...
Сцялася я перад той — былой.
Штосьці рвалася ўва мне. А болю
не было. Чамусьці не было.

* * *

Гукаю. Немаведама каму.
Не ўспомніўшы ніводнае малітвы.
Не чуючы адчай званоў, разліты
вакол...
Прымаю ўсё — усё прыму! —
крануўшыся пададзенай далоні
не веснамі нясмелымі, жыццём.
Ты не мяне — ты гэта пачуццё,
упершыню мной зведанае, помні.
Не неабходнасці, тваёй руцэ
скараюся — і сэрца адпускаю,
і рану у грудзях не заціскаю,
і слёз не выціраю на шчацэ.
Гукаю. Немаведама каму.
Адкрыта. Па-даросламу старанна.
Мне не баліць,
мне цяжка стрэціць ранак,
што верне цвёрдасць голасу майму.



Мы з табою адзін аднаго
аддаём сваёй памяці сёння,
і світанак, панылы спрасоння,
засвяціць не спяшае агонь.

Быццам ведае: з ім яшчэ горш,
і па-свойму, але спачувае.
Пагукала жыццё — ледзь жывая,
я імкнуся на кліч яго, ў дождж.

І вяртаюся, моўчкі прашу —
тварам, вуснамі! —
плашч твой вільготны
не забыць гэты твар мой сумотны,
які жыў, каб высвечваць душу.

Я не ўмею сабе памагчы.
Ты баішся, што свет свой парушыш...
Дзвюх слязінак, падведзеных тушшу,
не відаць на вільготным плашчы.



Нясу табе сваё цяпло,
а ты не хочаш грэцца,
не ўмееш...
То паўз нас цякло
бязмежжа — глухнуў вецер,
то ў вецер умярзаў агонь —
не патухае неба:

мне проста страшна за яго
і за цябе...
Не трэба,
не аддавай мне цэлы свет
замест сваёй любові,
з табой — і твой губляю след,
з табой — і не з табою.
Імгненне толькі і было,
а ўсё, што маю, страчу.
Прыкрыла даланёй цяпло,
як птушаня,
і плачу.

* * *

Роднасць не ўзнікла — была.
дзесьці ў другім вымярэнні,
там, дзе ўздыхалі карэнні,
чуючы зрухі цяпла.
Дзе ачышчальнай вадою
мякка струменіўся час,
сёння напоўніўшы нас
прагай сваёй маладою.
Верыцца ў светлы працяг
кожнага руху і слова —
ў новым, шчаслівым, вясновым!
Дай мне прайсці гэты шлях!
Хай побач з намі гады
ціха ўбіраюцца ў срэбра,
вера раскрыльвае неба,
небам світаюць сады.
Гэта ўва мне назаўсёды.

Гэта тваё. Ад твайго.
Быццам з дазволу багоў
стала душою прырода.
Верыцца ў светлы працяг
кожнага руху і слова —
ў новым, шчаслівым, вясновым!
Дай мне прайсці гэты шлях!

## ПОЎНАЧ

З дажджом,
што то змаўкаў, то пеў
у валасах даўгіх,
прыйшла у думкі пра цябе —
і засталася ў іх.
Струмені стылае вады,
струмені стылых слоў
перабіралі не гады —
струмені валасоў.
І дождж я слухала, як рух
тваіх спакойных рук.
І не канчаўся першы круг
ўсіх будучых разлук.
І не канчаўся першы боль,
і не канчаўся дождж.
Ноч спаганяла за любоў,
нібы любоў — крадзёж.
І я не гнала яе прэч,
папросту не магла:
дажджом сцякала з голых плеч
мая — мая! — туга...



Ці ж сэрцу забароніш грэць
таго, хто побач стыне?
Пужае холад, а не смерць...
Ці ёсць мяжа ў пустыні,
якую ты абжыць гатоў
і называеш: вечнасць?
Мы ўсе — на скразняку гадоў,
не імі ж сум вылечваць!
Гады, гады... Вось і ў душы
паціху вечарэе.
Навошта ж той агонь тушыць,
які цябе сагрэе?



Адзіноцтва, я прагну цябе,
а ў абдымках тваіх вечаровых
прычакаю, калі разаб'е,
разарве іх чыё-небудзь слова,
і кідаюся ў вір, у натоўп,
у гаворкі пра цуды прыроды,
пра забыты ўсясветны патоп,
пра памер вершаваны, пра моду.
Выслухоўваю ўсё, да лухты,
спавядаюся ўсім, хто пытае,
і палохаюся пустаты,
што раптоўна ўва мне вырастае.
Ні ўспамінаў, ні слоў, ні надзей,
бы збылося начное прароцтва...
І бягу — ад сябе, ад людзей
у абдымкі твае, адзіноцтва.

## ГУЛЬНЯ

Мне прапаноўваюць гульню
у хованкі: два сэрцы,
ноч без ніводнага агню,
пакой... І ўсё, здаецца.
І ўсё. І трэба адшукаць
агонь, хоць ненадоўга.
Не адшукаць, дык ашукаць
неназнарок другога,
што ты знайшоў,
                        што ты адкрыў
таемнае свячэнне,
што адчуваеш сілу крыл.
О, вечны пошук ценю!
Так, пошук ценю, не агню —
агонь нас сам знаходзіць.
Мне прапаноўваюць гульню,
як кажуць, на бязводдзе...
І я ўсміхаюся ў адказ
і б'ю з размаху, слепа,—
перада мной не твар, а час,
яго жахлівы злепак.

* * *

Злілася з днём — зліваюся! — ўва мне,
глыбока недзе, дыхаюць зярняты,
лісток па тонкай сонечнай струне
спаўзае доле, як жучок стракаты,
кастры дымяцца, воблака плыве,
пагойдваючы бляклую сінечу,

шукае вецер цень свой у траве...
І доўжыцца, і доўжыцца ўсё вечна.
Я ўжо не помню, як, адкуль, калі
прыйшла з якойсьці крыўдаю цяжкою,
спакоем спрацаванае зямлі
злячыцца — я злілася з тым спакоем.
Каб зноў — каторы раз ужо! —
аджыць,
каб зноў — каторы раз ужо! —
адолець
жаданне не вяртацца, не кружыць
падбітай птушкай
над сваёю доляй.

* * *

Мы ўсе асляплены жыццём,
усе сляпыя, ўсе сляпыя!
Спярша навобмацак расцём,
выцягваючы з плачу шыі.
Пасля навобмацак ідзём
праз шматвяковы пыл дарожны,
выпрошваем у стрэчных дзён
усё, што толькі знесці можам.
Хаця ва ўласнай слепаце
набыткі ацаніць не ўмеем,
а ноша — больш і больш расце,
а моц — слабее і слабее.
Спужаўшыся, упершыню
спрабуем неяк ухапіцца
за цемру ўкруг, за цішыню,
за тонкі галасок сініцы.

Гукаем — клічу не чутно,
сціскаем пальцы рук — пустыя...
А згадваем (усе — адно!)
любоў,
        калі ў грудзях астыне.

* * *

Ты чытаеш у маёй душы,
лёгка разбіраеш, год за годам,
знакі, што не я, а цэлы род мой
выяўляў — і гэтым лёс вяршыў.
Лёс не толькі мой — зямлі самой,
гэткай жа бязгрэшнай і грахоўнай,
гэтак жа, як я, жанчына, поўнай
сілай жыццядайнай, незямной.
Здэцца, што ў той сіле, як яна
не знаходзіць ці не мае выйсця?
Корчыцца на стылым ветры лісце —
корчыцца ўва мне мая віна...
Але з лісця — прарасце вясной
парастак зялёнага прасцягу,
а віна ў душы — народзіць прагу
ачышчэння гэтаю віной.
Стане светла ад высокіх дум,
і задзьме халоднае світанне
сум вачэй, які цябе параніў...
Ты прабач мне той спрадвечны сум!



Ёсць хараство, якое зразумець
не дадзена ніводнаму са смертных.
Адкрыецца — і як адпрэчыць смерць,
і як наблізіць вечнасць...
Непрыкметна
напоўніцца святлом твая душа,
і ты, святлом душы, асвеціш неба,
рашуча не зважаючы спярша
на боль:
балела — значыць, так і трэба.
Адно прыкрыеш вочы даланёй,
зглынеш уздых і, ў прадчуванні страты,
заплачаш перад тою вышынёй,
што ўсё яшчэ ў табе...
О, гэта свята
сумоты, ўсхваляванасці і слёз,
такіх салодкіх і такіх балючых!
Што перад імі твой будзённы лёс?
Ёсць хараство. Быў міг, яму сугучны.

# IV

*З крыніцы высахлай ваду не піць...*
*Гукаю продкаў, блізкіх і далёкіх.*
*Гукаю песняй: песня — тая ніць,*
*што дні, гады, вякі нітуе лёгка.*

6 Зак. 537

# РАГНЕДА

## Паэма

Гісторыя — найвялікшая паэтэса.
*Ф. Энгельс*

Даўняе...
Далеч і далеч! —
чорна-блакітны сувой
часу,
што нам пакідае
нітачку мовы жывой:
песні, паданні, легенды.
Колькі іх край мой збярог!
Першыя — з імем Рагнеды
лучаць расстайнасць эпох.
Хто яна? Ў стомленым гудзе
часу —
за горыччу слёз —
звалі Рагнедаю людзі,
зваў Гарыславаю лёс.

### 1. КУПАЛЛЕ

Тыя ж звычаі карысталі Крывічы, іншыя паганыя, што не ведалі закона Божага, ды тварылі самі сабе закон...
*Лаўрэнцьеўскі летапіс*

Дзён калаўрот...
Сонца ў паўнеба
выйшла з варот,
кутых са срэбра:
срэбра цячэ —
рэчкаю ў мора,
сонца ярчэй
ззяе над борам.

Бор абступіў
чашу паляны:
хто не дапіў
водар смаляны,
той раскладзе
сёння купалле,—
плыць па вадзе
плынню, за хваляй,
новым вянкам
з руты й чабору.
Вышыць жанкам
песнямі ўзгорак.
— Ой, калі мая добрая доля,
ой, калі мая добрая доля,
звіся, вяночак, як гаёчак,
звіся, вяночак, як гаёчак...
— На тачыне хмель не развіўся,
на ніўцы ячмень не наліўся,
у таткі дзевачка не вырасла,
русую коску не выплела,
шчасця, долі не вынесла...
Песні пяюць —
долю гукаюць.
Ціха плывуць
песні над краем,
клічуць усіх
сонцу дзівіцца:
вытчацца міг —
звоняць крыніцы.
Столькі святла,
звонкай сінечы —
ды не датла
выгарыць вечар!
— Кладзіце агні вялікія!
Паліце ведзьму лятучую,
каб яна па полі не лятала,

каб яна заломаў не ламала,
кладзіце агні вялікія!
— Купальскае ночы
выпеклі ведзьме вочы,
каб і ўночы не лятала,
каб і расы не збівала...
Песні пяюць —
ведзьму ганяюць,
кругам ідуць,
рукі сплятаюць —
хлопцы, жанкі,
дзеўкі і воі!
У люстры ракі —
гуртам, па двое.
Мо для каго
збудуцца слёзы...
Вышай агонь —
ніжай нябёсы!
Мо для каго
долі не стане...
Вышай агонь —
радасней гранне!

*

Народ спявае за добрым князем?..
У Рагвалода — меч харалужны,
сыны — два воі, ён з імі разам
вадзіў дружыну — і вояў мужных
міналі стрэлы, дзіды не бралі,
і вольны Тураў іх славай стрэціў.
У Рагвалода — дачка, не зналі
красунь, ёй роўных, у цэлым свеце:
каса цяжкая, святлей ад сонца,
краса — хто стрэне, вачэй не зводзіць;
у тонях позірку, на самым донцы,

сінеча ззяе, бы хвалі ходзяць.
Успыхне позірк — звініць наўколле,
пагасне — раптам усё нямее...
У Рагвалода — Полацак, воля,
якую ён бараніць умее.
Але ўсё кружыць над краем воран,
але ўсё плачуць вятры і плачуць.
Што бачыць воран? Якое гора
дзень прычаканы
слязьмі пазначыць?
У Рагвалода — меч справядлівы,
як павялося здаўна, так судзіць:
у вояў — коні, ў ратаяў — нівы,
у князя — слава. Хай славяць людзі!
І славу гэту за крывічамі
прызнаюць землі краёў чужынных —
бо здабывалі яе мячамі
князь Рагвалод і яго дружына.
Але ўсё ніжай кружляе воран,
але ўсё бліжай гудзе дарога.
Што бачыць воран? Які ў іх вораг?
У Рагвалода — адна трывога:
далёка Кіеў — шлях недалёкі,
далёка Ноўгарад —
свіст стрэлаў чуцен...
Яшчэ не гасяць святло аблокі,
яшчэ блукаюць сцяжынкі ў руце,
яшчэ красуюць жыты у полі,
яшчэ гукаюць каханне песні —
а ўжо трывога душу няволіць,
а ўжо развага пачуцці цесніць.
За добрым князем народ спявае?
Не, князь славуты сваім народам...
Прыйшло купалле — вянкі звівае,
хай сёння княжыць сама прырода!

*

— Калі мая добрая доля,
калі мая добрая доля,
звіся, вяночак, як гаёчак,
звіся, вяночак, як гаёчак...
Першаю ўстаць,
рана, да пеўняў,
у косы ўплятаць
водар купены.
Пецъ для таго,
хто ўжо чакае:
вышай агонь —
бліжай спатканне.
Першай збудзіць
рэха лясное,
доўга студзіць
ногі расою.
Руту шукаць
у лузе, за ноччу.
Прыме рака
звіты вяночак.
Шчасце ў каханні —
плынню падхопіць,
доля ліхая —
ў хвалі патопіць...
Дзяўчаты ўсё цішай спяваюць,
як прычараваны ракою.
Адна за адной адплываюць,
адна за адной адплываюць
вянкамі дзявочыя мроі.
Вяночак жа, самы зялёны,
ля кручы буруны схавалі.
— Ой, доля ліхая князёўну
чакае...
— Вяночак князёўны

рака не ўтрымала на хвалі!
— Рака не ўтрымала...
Шукаюць
Рагнеду. Рагнеда ступае —
каса, непамерна цяжкая,
каса, непамерна цяжкая,
па плечах у травы сцякае.
Кранецца зямлі — узыходзяць
рамонкі, схіляюцца ўслед ёй...
І кружыцца ўсё ў карагодзе,
і кружыцца ўсё ў карагодзе,
і песня гукае Рагнеду.
Блішчыць Палата з ёю поруч,
прастору вятрыска раскрыліў —
і кропля за кропляю горыч,
і кропля за кропляю горыч
губляе атрутную сілу.

*

Вечар з кубка залатога
п'е густую цішыню
і, схмялеўшы, мосціць доўга
шлях пад капыты каню.
Трэба ж, каб за сонцам следам
месяц ехаў і свяціў! —
на зямлі, спакоем беднай,
мноства самых розных дзіў:
лесуноў, русалак, ведзьмаў —
без святла не пабароць.
Вечар шлях адолеў, недзе
загубілася аброць,
потым конь схацеў напіцца,
потым спатыкнуўся конь...
На паляне, ля крыніцы,
скача і пяе агонь

вышай, вышай —
крок за крокам
кола рук усё шырэй,
разарвалася! — далёка
рэха крокі не збярэ.
Сыпанулі дзеўкі гаем
хто куды, абы з вачэй!
І пагналі іх, пагналі.
Кожнаму карціць хутчэй,
апякаючы дыханне,
з губ дзявочых піць агонь —
тухне, тухне пад нагамі
каснічок святла таго,
што касцёр навокал сцеле.
Гнуткім голлем ссечан твар...
— Дагані!
Багі хацелі,
каб агонь быў меншы дар,
і таму няхай апаліць —
бег, гушчэчай, напралом.
— Дагані!
А ўжо загналі
мроі дзеўчыну ў сіло,
і трапечацца ў абдымках,
і не можа звесці дух —
ў прыгажэйшым з паядынкаў
пераможа кожны з двух,
і сарваная апратка
будзе іх чакаць да дня...
Месяц выйдзе, пройдзе кладкай
за раку, і цішыня,
высвечаная да донца,
заспявае, зазвініць —
каб плыло ракою сонца
на купальскія агні.
Іх багата: браў, хто любіць,

каснічок кастра сабе...
Месяц пройдзе,
цень свой згубіць
там, дзе плынь у бераг б'е.

*

Над Палатой, там, дзе сосны
бераг на плечах падняў,
раніцу, верачы ў лёс свой,
стрэла Рагнеда адна.
Доўга агні дагаралі,
зоркі студзілі расу,
песні... Другімі дарамі
сплоціць ёй лёс за красу!
А ўсё душа не збаліцца —
піў з яе смутак і піў...
— Яне?!
— Князёўна баіцца? —
хлопец на крок адступіў.
Стала чуваць, як адчайна
сэрца ірвецца з-пад рук.
— Не. Калі раптам страчае
гэткі, як ты, без прынук...
— Я ўсё чакаў, каб азвацца.
— Што ж ты вось тут і стаяў?
— З вечара!
Трэба б спяшацца
і абагнаць салаўя
сцежкай —
паўз свята прыроды...
Дзіўныя чары зямлі!
З ёю, дачкой Рагвалода,
гэты Янук!
— А калі
плату ў цябе галавою

возьмуць за гэтую ноч?
— Хай! Я быў побач з табою,
побач! —
і бліскаўкі з воч.
— Хай?!
— Не спяшайся, князёўна,
толькі ж адно і змагу:
ўмерці за тое, што сёння
з сэрца не вырваў... тугу
і ўжо не вырву ніколі!
— Воля Дажбога, Янук.
Лепшай з дачок яго — волю
ў дар прынясеш...
З яе рук
выслізнуў месячык востры,
ноч заспяшалася прэч.
Мо падалося ўсё? — проста
голле краналася плеч,
проста шапталіся хвалі
з зоркамі, а з цішыні,
быццам лілеі, ўсплывалі
і патухалі агні...
Доўга шукала вачыма
сцежку —
блішчэла ж правей!
Знікла. І ўжо немагчыма,
страшна ступаць па траве:
вянуць, ламаюцца зёлкі...
Вечныя чары зямлі!
Пах яе, звабліва горкі,
ранак за ранкам спяліў,
каб настаяла паветра,
каб ад глытку яго пёк,
спальваў той сум запаветны,
вечны, пакутны здалёк.
Роднасць з бацькоўскай зямлёю...

Міг ці пяройдзе ў вякі?
Лёс ці палічыцца з ёю?
Помніцца, пелі жанкі:
— На тачыне хмель не развіўся,
на ніўцы ячмень не наліўся,
у таткі дзевачка не вырасла,
русую коску не выплела,
шчасця, долі не вынесла...

## 2. ЗАРУЧЫНЫ

І княжыць у Наўгародзе Валадзімір, і пасылае да Рагвалода Полацкага, мовячы: «Хачу ўзяць дачку тваю сабе ў жонкі...»

*Лаўрэнцьеўскі летапіс*

На торнай дарозе
трава не расце...
Вялікай трывозе
збаяцца не сцен,
не вежаў дазорных,
не вояў пры іх.
Не ведаюць зморы
на конях сваіх
паслы Наўгарода,
прыспешваюць дні.
Між княжага роду
шукае радні
іх князь,
каб парушыць
спадзеўкі багоў:
сын князя й Малушы,
рабыні яго,
хацеў Валадзімір
валодаць усім,
што вокам абдыме,

што ўхутана ў сінь,
што далей, за сінню,
што ўкрылі лясы,
усім і — усімі...
Хацеў — не прасіў,
а клікаў Дабрыню,
загадваў, і той
стараўся...
Княгіню?..
У Полацк — сватоў!
Па ўзгорках, лагчынах,
праз морак лясоў,
па сцежках ваўчыных —
пад вухканне соў
па слова — па сэрца
Рагнеды...
Паслоў
сталы, як вядзецца,
чакалі — было,
хапіла і кубкаў,
і мёду, і слоў.
Па слоўных прыступках
сам князь вёў паслоў.
Ніяк з асалодаю
тыя пілі —
за дом Рагвалода,
за шчодрасць зямлі,
каб дні красавалі,
агонь не ачах...
Рагнеду пазвалі.
Прыйшла. У вачах —
яны не хавалі! —
гайдалі агні
халодную хвалю
цяжкой цішыні.
У гордым адказе

слязы не чуваць:
— Рабыніча-князя
не мне разуваць,
не мне! —
быццам знае
пра тое адна:
усё, што спазнае,
спазнае да дна.
А што?..
Як знямелі
ля белых сталоў
ад гэтае смелай
адкрытасці слоў,
ад гэтае гордай
дзявочай красы.
Ды слоў Рагвалода
чакалі паслы.
— Адказ не здаволіў
гасцей? —
Рагвалод
дачку не няволіць:
з паўночных варот
сватоў сваіх Кіеў
у шлях выпраўляў.
А думы — цяжкія...
Аціхла зямля:
ні вочап не рыпне,
праводзячы дзень,
ні птушка не ўскрыкне,
ні ліст не ўпадзе.
Скаваў усё роздум...
Ці дзень не ўсцярог
паселішчаў гнёзды
на голлі дарог?
Ці выйшлі дарогі
па той бок яго,

дзе гасне
трывогі
ахвярны агонь?..

*

Суджана — не разгуджана...
Гужам, гужам — даўгія дні.
Перакочваецца жамчужынай
сонца ў кожнага ў далані.
Але высь натыхае холадам,
і ўздымаецца пыл да хмар,
і, праз міг, раздрабілі молаты
цішыню, і свой першы ўдар.
Стала цёмна. Маланкі — навіссю.
Шлях, як конь, устаў на дыбы.
Застагнала зямля. Чапляліся
за яе, цяжкую, дубы,
каб адзін з адным, паміраючы,
усім тром абняцца галлём...
Стала чорна. Вухнуў за далеччу,
прыпазніўшыся трохі, гром.

*

Бом! Бом!
Бом! Бом!
Біла
ў Вялікае Біла
трывога —
даль
за клубом
пылу халоднага
ўкрыла дарогу.
Вораг ішоў.
Гора

пагоркамі горбіла
вёрсты.
Крык старажоў
доўга стрыножвала
кожная
ростань.
Бом! Бом!
Бом! Бом!
Біла
ў Вялікае Біла
надзея.
Тут, за гарбом
бору, не злыбеда
раніцу дзее.
Горад гудзе.
Рана
трывога сабрала
ля вечных
полацкіх сцен
вояў
і люд яго вольны
на веча.
Бом! Бом!
Бом! Бом!
Біла
ў Вялікае Біла
змаганне.
Нельга рабом
жыць на зямлі сваёй
побач з багамі!
Мала мячоў? —
ёсць жа
на кожным падворку
сякера.
Як крумкачоў,
ворагаў? —

вораг іх гора
не мераў.
Веча...
Бом, бом, бом!..
Паб'ём
прышлых чужынцаў
альбо пампом —
сеча! Сеча!

*

Не вецер хмару ўсё ніжай сцеле,
а хмара стрэлы ўсё бліжай сее,
а стрэлы раці на раці гоняць,
мячы ў цяжкія шаломы звоняць.
З шаломаў збітых п'е не nап'ецца
другое — трэцяе ўжо! — дасвецце.
П'е не nап'ецца, патолі просіць:
смерць не шаломы — галовы косіць,
і топчуць коні іх капытамі...
Зямлю да горада ўкрыць не шчытамі —
касцямі ў сечы палеглых вояў.
Не зваяваны адвага й воля:
мячы ў чужыя шаломы звоняць,
кроў чуюць, быццам дзічэюць коні —
храпуць, ірвуцца з-пад ліўня стрэлаў
без седака
ці з абвіслым целам...
Ярчэй, трывожней палае неба.
Што ж, абы славе не быць ганебнай!
У Рагвалода — меч харалужны,
сыны, два воі...
Іх смерці мужнай
не бачыў ён, чужакоў адкідваў,
ірваўся ўперад, насустрач дзідам —
за вольны Полацк свой, за волю...
Не сонца ўпала дубам на голле —

апошні, ссечаны, на сонца падаў,
і тухла, тухла яно. І праўда,
слабей чуваць, як зямля ўздыхае,
смялей груган над зямлёй кружляе.
Да сценаў полацкіх крыві хапіла —
і не было каму ўжо біць у біла.

*

О, чорны пасеў...
Спіць гэтулькі люду!
Калі яшчэ ўсе
аплаканы будуць?
Ці будуць? І кім?
Пакуль яшчэ сховам —
сасняк ля ракі,
і побач — ахова...
Пакуль яшчэ ў іх
ёсць нітачка шляху...
А мала жывых,
дык мала і страху.
Ці ж для крывічоў
чужынцы не ў памяць?
Князёўну з мячом
шчыльней абступаюць.
Скрываўлены шлях
пятляе з палону.
О, страшны пасаг!
Шаломы, шаломы...
Палон?! Вось ён, час
знявагі, няволі!
Загналі. Якраз.
Не выкаўтнуць болю.
Яна ўжо адна!
Яе Валадзімір
касой да сядла

прывяжа, абдыме
за шыю каня
пад клік пераможны...
Рашуча яна
намацвае ножны.
І бліскае нож,
і падае цяжка
каса яе ў дождж
пылінак бязважкіх —
ва ўсіх на вачах,
пад шэпт захаплення! —
крануўся пляча
бярэмак праменняў,
рассыпаўся ўкруг
і высвеціў вецер.
І роспачы рук
ніхто не прыкмеціў.
Нявольніца?
Што ж
маўчыць наўгародзец?
У грудзі б той нож! —
апошняя з роду...

## 3. ПАЛАНЯНКА

І пусціўся Валадзімір у распусту, прыводзячы да сябе мужавых жонак і дзеўчын разбэшчваючы; любіў бо жанок...

*Лаўрэнцьеўскі летапіс*

Дудачка грае
ціха, ласкава —
так з небакраем
шэпчуцца травы,
так праз лістоту
дыхае ранне...

Грае, сумоту
тушыць іграннем.
Ды не дагоніш
сцежку ў няволі.
Быццам далоні —
поле і поле.
І да аблокаў —
чырвань, як накіп:
полем, далёка —
макі і макі.
Полем — спачыну
просіць у дудкі —
кружыць дзяўчына
ў строях бялюткіх.
Просіць, а гукі
з губ не злятаюць.
Кружыць, а рукі
ўплецены ў танец.
Жудасны танец! —
рукі і вецер...
Вецер гайдае
роснае вецце,
квецень губляе
ў ранак каліна...
Дудачка грае?
Плача дзяўчына?
Цяжка ўсумніцца:
нечая ж доля...
Сніцца ёй, сніцца
гэтае поле!

*

А па полю, па полю — над ім:
гэтак лёгка вызвоньваюць промні! —
на капі, ад святла залатым,

ехаў той, хто кахаў яе, помніў
кожны міг у расстанні. Бліжэй!
Сэрца радасна рвецца насустрач —
і дарэмна яго сцеражэ
прадчуванне:
у небе, бы ў люстры,
застывае зямля — ў цішыню
яркім макам затканае лета —
цела юнае, што ўпершыню
так даверліва дыхае ветрам,
побач з воем...
Рагнеда спярша
не пазнала сябе, а пазнала —
зашчымела балюча душа:
з гэткай прагай кахаць —
не кахала,
не кахала яшчэ! І таму
хай мілуе яе
хлопец-воін.
Што яе — ўсё належыць яму!
Сэрца рвецца: жывое, жывое!
І струменяцца рукі ў руках —
з кожным рухам пяшчота смялее,
і пагляд, як аслеплены птах,
не ўзлятае з апушчаных веяў,
і, схмялеўшы ад блізкасці плеч,
рук, грудзей,—
пацалунак...
Што з небам?!
Бліскавіцай рассек яго меч
напалам — толькі бліснула срэбра
і пажухла ў цяжкой глыбіні.
Меч? Адкуль ён?
І сонца не свеціць...
Толькі макі гараць — іх агні
раскалыхвае стомлена вецер.

Толькі макі...
І раптам — сцяной! —
воі, ворагі! Дзіды да неба.
З тога боку. З другога. За ёй.
Бегчы некуды. Бегчы ганебна.
А на плечах — адно валасы,
ззянне цела яны не патушаць.
Галасы, галасы, галасы! —
сэрца стукам іх гул не заглушыць.
Круг звужаецца.
Марна яна
уціскаецца ў цень свой дрыготкі.
Вой за воем — жывая сцяна! —
набліжаецца. З кожнае глоткі
крык выштурхвае крык:
— У-лю-лю!
Вось адзін — Валадзімір? — ступае
колькі крокаў
і дзіду ў зямлю
побач з ёю рашуча ўтыкае.
Вось другі... Валадзімір? Яшчэ?!
І яшчэ? І яшчэ?..
Ўкруг Рагнеды
агароджа — не ўціснуць плячэй,
не адкінуць навіслае неба.
І смяецца — смяюцца, іх шмат! —
воі
з тварам таго, хто паслаў іх...
Гэта сніцца? А шлях, што назад,
краем лугу, назад адпаўзае?

*

Сонца — бег мінут замаруджаны —
не кранулася цішыні,
не кранулася... Сном разбуджана,

шэпт Рагнеда чуе:
— Зірні,
Палата, што чорнае золата! —
крута б'ецца ў бераг круты:
не падымуцца больш тры волаты —
бацька твой і твае браты.
Да нябёсаў агні жалобныя
іх маўчанне ўзнялі над ёй.
Тры князі былі... Даль халодную
тры дымы падперлі сабой —
тры шляхі ў адзіны зліваюцца:
з трох дубоў — тры слупы паўз шлях,
на слупах, урослых у раніцу,
у гляках — сабраны іх прах.
Азірніся, пакуль за далеччу
яшчэ бачна...
— Янук?
На ўздых
ірванулася, адкідаючы
рэшту ночы з плеч маладых,
і застыла: сонцам затоплена
даль... на дзідах павіс Янук —
вочы сіне-сінімі кроплямі
вось-вось скоцяцца ў цішыню!
Закалолі!
Усё збываецца?
Крок, другі... Наваліўся страх.
Далей, далей! — з балючай памяці
вёў пазначаны лёсам шлях.

*

Кінь за сабой,
найдзеш наперадзе?
Стомлены боль...
Стомлена ў цемрадзі

яркага дня
позірк ламаецца.
З самага дна —
з пылу ўздымаецца
стук капытоў.
Дробіцца, дробіцца.
Даль ад шчытоў
ссунутых горбіцца.
Шчыт да шчыта,
шэраг за шэрагам!
Што ні вярста —
берагам, берагам —
берагам дум!
Памяць аглухлая...
Марна бяду
сэрца адштурхвае:
крыкам упаў
доўгі цень вечара.
Губы — губам,
смагай апечаным!
Мроі — рукам,
прагным, без сораму!..
Колькім вякам
гэтым аддорана?

*

Адны вочы і плачуць і смяюцца...
Калі ж не ўпала ні адна сляза?
І смех прарос маўчаннем? І здаюцца
чужымі думкі горкія, назад,
у Полацак, не трапіўшы з сумотай?
Калі ў пакоях — рэха і Яна?..
Гавораць, Валадзімір за работу
сплаціў варагам золатам спаўна —
а ўсёй работы: брата закалолі...

Гавораць, ён збіраецца ў паход
і зваяваным днём не задаволен...
Гавораць, што...
Гавораць, не прыгод —
жанок шукае, з імі ночы бавіць,
пусціўшыся ў распусту з ночы ў ноч,
гавораць...
О, паслужлівая памяць!
Князь... княжы... князю...
Што ў яе апроч?
Чужая сіла — памяці дыктуе.
І марна гоніць Лыбеда-рака
сумоты аблачынку залатую
паўз дзень,
які заблудзіцца ў вяках.
Ніхто не разгадае таямніцы:
любіла? ненавідзела?
Хай дзень
Рагнеду не прыспешвае ўсумніцца
у праве жыць насуперак бядзе,
ён — самы першы
з шэрагу бунтоўных...
Сын — а народзіцца ў Рагнеды сын! —
ёй верне і рашучасць, і гатоўнасць
напомніць Валадзіміру
лясы
вакол паселішчаў пустых,
прадонне
касцьмі перасяванае начы,
братоў сваіх пад капытамі коней,
кроў Рагвалода на чужым мячы...
Напомніць, і балючым успамінам
не хопіць слоў,
каб два жыцці з'яднаць.
Чакае вестуна — чакае сына,
з пакутлівымі думкамі адна.

Адны вочы і плачуць і смяюцца?
Не плачуць, не смяюцца — як тады?
На поўнач мкнуцца хмары,
рып іх чуцен,
натужны, быццам крышацца гады.
Насустрач ім —
такой знаёмай рыскай! —
гусей цяжкая, хвалістая ніць...
Княгіня?.. Паланянка?..
Кіеў блізка.
І кліч яе дамоў не даляціць.

### 4. ЧУЖАЯ СІЛА

Нараніцу ж сагналі без ліку людзей: улезлі ў ваду і стаялі адны да шыі, а другія да грудзей, меншыя ж ад берагу, трэція дзяцей трымалі. Спраўляўся ж абрад...

*Лаўрэнцьеўскі летапіс*

Ляхі... Вяцічы... Чудзь...
Тыя, іншыя землі.
Хай здалёк не пачуць,
дзе мячы зазвінелі,
ды чакае з ганцом
Кіеў вестку ад князя.
— Валадзімір мячом
множыць славу.
— Адразу
ён не ведаў пра страх...
— Славы вораг збаіцца!
У ахвярных кастрах
кроў дыміцца, дыміцца.
— Князь задумаў шукаць
бога ў Корсуні.
— Вояў

незлічоную рацць
узначаліў... З сабою
браў дарункі. Відаць
па ўсяму, што з намерам:
не купіць — зваяваць
і княгіню, і веру.
— Трэба класці кастры
для куміраў — памогуць!
У Стрыбога вятры,
далячыні ў Дажбога...
— Неба высачыць шлях,
вецер верне дзянніцу!
У ахвярных кастрах
кроў дыміцца, дыміцца.
— Абы ўчулі шляхі!
— Не княгіня Рагнеда?
Хто ж?
— Над рэчкай тугі
параслі яе беды...
— Дзе бяда, дзе віна!
— Не на сонца дзівіся...
Нарадзіла яна
сына. Князь нарадзіўся!
— Ды адступіцца страх
і багам не змыліцца!
У ахвярных кастрах
кроў дыміцца, дыміцца.

*

Ціха ўслухваецца далеч
у наступны ранак. Час!
Хай, як загадана, паляць
балвахвальнікаў — якраз
там, дзе ўсякі раз старанна
люд крывёй паіў гару,

дзе, у золата прыбраны,
высіцца стары Пярун...
Перуна падхопіць хваля,
аб парогі разаб'е —
толькі б хвалю абміналі
берагі! Не па сабе?
Мёду ўсім!
Другою верай
захад князя адарыў —
і другім ён бачыць бераг.
Кожны княжыць — да пары.
Хай грамчэе плач жаночы,
стук сякер і гул агню —
Корсунь слухае! Да ночы
(о, калі б на караню!)
знішчыцца паганства,
злітнасць
чалавека і зямлі,
злітнасць,
што была як літасць...
На гары заход разліў
фарбы, і на яркім фоне
чырвані
патух агонь.
Тут Пярун стаяў. Сягоння
князь стаіць. Пагляд яго
не кранаецца былога:
след у згадцы не ўтравеў —
асвячонай імем Бога,
заўтра тут стаяць царкве!

*

— Огнь вялікі,
Огнь магутны,
дрэва ночы дагарае —

засвяці,
раздзьмі над краем
сонца!
Хай вяночак з руты
на бярозавых галінках
не засушвае
заўчасна,
хай і дзень наступны —
ясны,
Огнь магутны,
Огнь вялікі!..

*

Усход засланіў
шчытом Валадзімір.
І люд бізуны
пагналі ў нізіну
да плыннай ракі.
Дыміцца кадзіла.
Галосяць жанкі
І дзеці.
            Ці ж дзіва!
Кадзіла, крыжы,
папы, каб маліцца...
А кожны дрыжыць,
і кожны баіцца
вады, і крыжоў,
і слоў невядомых.
Удары — дажджом
па плечах,
                па стогнах.
Не ціхнуць ні гвалт,
ні плач, ні малітвы:
да гурту — назад...
Вакол як наліта

густога святла —
згарэлі куміры!
Згарэлі датла!
Світае ўсё шырай,
святло ўсё цячэ...
Удары... удары...
Малітвы — грамчэй.
Пакута на тварах.
Ідуць чарадой,
не тояць нязгоду.
Хрышчэнне! — вадой,
дняпроўскай, халоднай,
якая ад ног,
ад руху ўскіпае.
Ці хісткае дно,
ці роспач хістае:
хто мкнецца назад,
хто ўнурыўся, збіты,—
не ціхнуць ні гвалт,
ні плач, ні малітвы...
Усё — да цаны
прыдбанае веры —
раскажуць званы,
і час ім паверыць.

*

Усё засталося, як калісь...
Апошнія промні цяпла
заворвала сохамі поле,
аблокамі ціша цякла.
Зачэпіць якая галіна —
і дождж лупцане па страсе
наўскос гамане вераб'інай
і позірку.
Зноў пакрысе

вяртаюцца песні старыя
і думкі старыя. Папы
адно што рахунак адкрылі:
час
зробіць сваё. Не слупы,—
святыя крыжы вартавалі
былое, звароту няма!
Што ж далей?
Хто скажа: што — далей?
Трывожна душы нездарма.
Ёсць Бог. І прышчэплена вера.
А праўда ўсё тая ж: адна
не здолее Лыбеды бераг
над векам
Рагнеда падняць —
занадта ж у кроў утаптаны
шлях з Полацка ў Кіеў, сюды,
у гэты засмужаны ранак.
І модлаў не ўчуюць гады!
Для гэтага —
гордай, ёй трэба
навучыцца любіць, даравацць,
схіляцца прад лёсам і небам...
Ёсць княства. І княская рацць.
І княская ўлада.
Ёй трэба
прызнаць за сабою віну
і ўкленчыць —
прад князем і небам
Зноў позірк упёрся ў сцяну.

## 5. СЫН

> І з тых часоў меч падымаюць Рагвалодавы ўнукі супраць Яраслававых унукаў.
>
> *Лаўрэнцьеўскі летапіс*

А-а, а-а, а-а...
А-а... Шэпчуць травы
з-за пляча, з сутоння,
пра сядланых коней.
Белы конь іржаннем
высцілае вечар,
і ў сядле — абраннік
прыгажэйшай з дзеўчын...
Чорны конь выносіць
седака, што мёртвы,—
высыхаюць росы
следам ад сумоты...
А-а, а-а, а-а...
А-а... Тушаць травы
пошчак, што ўсё далей
сцежка адкідае.
Чорны конь ці белы
не схацеў напіцца —
не спытаць наперад
у старой крыніцы.
Белы конь ці чорны
побач прыпыніўся,
не падкажуць зоры,
страчаныя ў высях.
А-а, а-а, а-а,
а-а... Чэзнуць травы,
зоры ў голлі ніцым
над струмком крыніцы...
А-а- а-а, а-а...



Першы крок.
Ды звонкіх слоў бярэмца,
што рассыпле сын насустрач... Зноў,
невядома зноў адкуль бярэцца
сіла. І цярплівасць. І любоў!
— Ма-ма...
І, падхоплены на рукі,
сын смяецца, цягнецца ўгару
да галін, што лісце, як карункі,
уплялі ў вячэрнюю зару.
Да галін, да сонца на галінцы.
А вышэй Рагнеда гушкане —
жмурыцца, спяшае прытуліцца
да пляча, не — губ яе раней!
І, зацалаваны ўвесь, цікуе:
— Гу-лі...
Мітуслівыя стрыжы
Лыбеды істужку трапяткую
цягнуць за сабою — у дажджы.
І губляюць. Залатою хваляй
вышыню захліствае заход.
Крылы, крылы, крылы!
Быццам далі
закрылялі над чародкай год.
— Дзе-да...
Песня паўз аер духмяны
Палату — не Лыбеду! — вядзе,
і бялюткім ручніком туману
цішыня палошчацца ў вадзе,
у рацэ, чырвонай ад пажараў
і крыві — а белага бялей!
Нібы раптам прыгадала чары
месяца...
Малы ж грамчэй, смялей:

— Та-та!..
Слёзы недзе блізка (неба
абрываецца!) — іх не зглынуць.
Неба ж у апошні міг Рагнеда
позіркам спрабуе адпіхнуць.
Сына прыхінае. Лашчыць. Шэпча:
«Вырастай хутчэй...
ты мой... са мной...»
І, задзьмуты гэтым шэптам, вецер
кажаном звісае над зямлёй.

*

Ціха крыляць
году за годам:
крык жураўля
ў ковах нягоды,
снег на траве,
росная квецень,
зноў журавель...
Стоміцца вецер
хмары ганяць
з поўдня на поўнач —
дождж не суняць.
Думкі — не ў помач:
ноч, а ці дзень,
гэткі ж выгнаннік! —
не прывядзе
ўсё ж да змагання.
Думка — не меч
(знесла б галовы
шмат каму з плеч!).
Словы ды словы
ціснуцца ў сны,
дзеляць надзеі,
вераць: яны

збудзяць падзеі.
Сын жа расце!
Побач. Руіны
полацкіх сцен
бачны і сыну:
стогнуць лясы,
кроў яшчэ льецца...
Меч возьме сын
ў час паўналецця!

*

Гукі рога перанялі
цішыню каля вады —
ганчакі пагналі далеч
берагам ракі сюды,
да глухіх пакояў княжых,
што Рагнедзе як турма.
Хто наведаць іх наважыў?
Валадзімір?
Нездарма!
Палыном парос гасцінец,
з Кіева ішлі адно
чуткі, чуткі. Не адчыніш
дзверы — шчэмяцца ў акно
і гуляюць па пакоях,
не хаваючыся, не!
Ці ж яна княгіня? З ёю
быў суровы і раней
князь,
а тут усё сышлося:
паляванне, гэта цем,
людзі з Корсуні і восень...
Мала ён чаго хацеў!
А хацеў — і браў...
Рагнеда

ведала: ўсяму канец.
Не княгіня?
Хай жа неба
прыме з рук яе вянец
і таго, хто гэтак жорстка
пазбаўляў усіх надзей!
Ноч...
Ён кінуў, быццам костку,
гэту ноч яе бядзе.
І — памрэ. Рагнедзе мусіць
сам выпадак памагчы.
Лёс ёй хлусіць, хлусіць, хлусіць,
і яго перамагчы —
гэта меч падняць на князя,
покуль спіць ён, покуль тут...
Толькі б здолела! Адразу! —
і да абраза, у кут,
мкнецца позірк,
думкі цягне.
Памаліцца б! Час не той —
і дыханне, як у багне,
ў цемрадзі тапе́ густой.
Час не той...
Што крыўда можа
папрасіць у Бога? Меч?
Падалася асцярожна
далей ад гарачых плеч,
і — да похваў. У Рагнеды
хопіць мужнасці падняць
меч — і адсячы ўсе беды!
А з грудзей, аднекуль з дна,
горлам
гул цяжкі ўсплывае —
сэрца? Толькі б не збудзіць
князя — як яшчэ жывая?..
Ледзь прыкметна затрымціць

вострый меч — адхлыне сэрца
ад уздыху, ўчыніць стук.
Не прачнуўся?
Усё здаецца:
не ўтрымаць ні мук, ні рук.
Адштурхнуўшыся ад страху,
замахнулася...
І ўпаў
перахоплены ў замаху
меч.
І вокліч...
Князь не спаў!

*

Загадана апрануць убор,
самы багацейшы, як княгіні,
і чакаць.
Калі якойсьці з зор
доле ўпасці — і яна загіне.
Загадана не марудзіць. Больш! —
паспяшацца. Ноч жа на зыходзе.
Загадана...
Не прачнуўся боль,
як ні спрабавала засяродзіць
позірк на аглухлых абразах,
думкі на цяжкім усведамленні:
не дайшоў і абарвецца шлях...
Модлы ўзнесці! З сынам.
На каленях
за яго прасіць, не за сябе.
— Божа літасцівы, ты ўсё бачыш!
Ці ж віна, што ўмела не слабей
адчуваць і верыць? Што не плачу?
Што хачу і зараз аднаго —
быць непераможанай? Што веру?

Уратуй у сыне той агонь,
для якога і жыццё — не бераг!
Божа ўсемагутны, не была
зроду ні пакорнай, ні цярплівай.
Ды за гэта не пазбаў святла
майго сына!
Час — не проста мліва
у тваіх магутных жорнах, не!
Ён прынізіць можа,
можа ўзвысіць.
Хай жа сына морак абміне,
што мяне захліствае! Дзівіся:
от нас двое... Ты застанься ў ім!
Памажы яму падняцца, божа,
памажы заступніцтвам сваім!
Крокі...
мне ніпто ўжо не паможа!.. —
сына туліць. І з абдымкаў сын
вырываецца насустрач князю.
Меч узняты.
— Ты тут не адзін!
І мяне... з княгіняй-мацi разам...
Знерухомеў той. Адно глядзеў,
як на тонкім твары Ізяслава
ўсё павольней раставаў ірдзень.
І між імі — меч? І гэта — ява?
Сын, а супраціў яго?
Здавён
не чуваць было такога ў людзе.
Адступіўся. Што ж, няхай не ён
даўняе з сягонняшнім рассудзіць!

## 6. ВЯРТАННЕ

Ужо не забі яе дзеля дзіцяці гэтага, але аднаві айчыну яе і дай ёй з сынам сваім.

*Лаўрэнцьеўскі летапіс*

Вецер у ветру спытаў:
— Лётаў ты ўсюды, і там,
дзе твае скрыдлы мялі
снег па зямлі, па галлі,
ты не заўважыў чубок
бору сівога, на крок
далей — акно азярца?
Я абяца-аў... абяца-аў
край той наведаць, не мог...
Госць жа спяшаецца — рог
кліча назад.
— Цішыню-ю
трушчыць паводка агню-ю...
Выгарэў бор на вярсту-у...
Вадзяніка будзіць стук
вострых сякер... Ну, быва-ай,
сцежак маіх не мінай!..
Вецер у ветру спытаў:
— Лётаў ты ўсюды, і там,
дзе твае скрыдлы мялі
квецень духмяную з ліп,
бачыў ты дым і кастры-ы...
зрубы, што ставяць майстры-ы
воддаль ад азярца?
Я абяца-аў... абяца-аў
край той наведаць — знямог...
Госць жа спяшаецца — рог
кліча назад.
— Дзе здавён
ціша ўтравелая, звон
раншне будзіць абсяг...

Горад — да горада шлях...
Воды, аж да берагоў,
студзяць падмурак яго...
Як нараклі, не пачуў,
стрэнемся неяк, лячу-у!..
Вецер у ветру спытаў:
— Лётаў ты ўсюды, і там,
дзе твае скрыдлы мялі
іскры iгліцы з ялін,
бачыў ты горад? — вянком
сцены наступных вякоў,
сценамі — пацеры той,
што у бажніцы пустой
зя́бне між даўніх трывог...
Госць жа спяшаецца — рог
кліча назад.
— Ізяслаў,
горад той князя паслаў
Полацку... І ў манастыр
ператварыўся... Пусты...
Ціхі. Адно каб не звон,
ім завалодаў бы сон.
Со-о-он...

*

Звон разгойдвае званар:
мах — удар, мах — удар!
Медзь гудзе. Таропка дзень
горбіцца, крыжы кладзе...
Бог наш бацька!
Лёс прымае гэты дар
(стогн — удар... стогн — удар...),
дзень пастрыгу. Хто прыдбаў
болей — валадар? раба?
Бог наш бацька!

Звон у прастрань, аж да хмар
(крок — удар! крок — удар!)
льецца, льецца, бы званы
будзяць пачуццё віны...
Бог наш бацька!
Смерць адвёў, ды на цвінтар
(ніц — удар! ніц — удар!)
дзень кладзе душу яе:
далей — моцы не стае...
Бог наш бацька!

*

Рагнеда (не, Анастасія —
сярод сясцёр манастыра)
шукае, прагне тое сілы,
якая адзіноту — страх
перад заўсёднай адзінотай! —
аберне верай.
Толькі б зноў
патрапіла душа ў цянёты
балючых малітоўных слоў!
О, толькі б давяралі словы
і супакой ёй свой, і боль!
Адвечнае — шукае ў новым,
шукае Бога над сабой.
Так хваля, гнеўная, цяжкая,
што міг назад крышыла лёд,
аціхшы, берага шукае...
Вярнулі ёй і край, і род,
які яе пасаг багаты
крывёю Кіеву сплаціў —
спрабуй,
прызнай у кожным брата
і палюбі! Адзін сваціў
з-пад рызманоў змарнелым целам,

другі пад шкурамі баброў
хаваў мізэрнасць,
                трэці ўмела
ўсё карыстаў — не на дабро.
Адзін, скуль памятаў, ратаем
служыў жыццю,
                другі служыў
таму, хто ўладу карыстае...
Спрабуй, любому памажы
займець не толькі суцяшэнне,
а ісціну: што ёсць жыццё?
Ёй страшна згадваць галашэнні
жанок,
        гару (агні — вянцом!),
удары бізуноў па плечах,
па стогнах...
                Гэта бачыў Бог?
Не-не, тут згадка недарэчы:
і ёй, і сыну Бог памог.
Няхай жа ён усім паможа!
Рагнеда будзе дзень і ноч
маліцца за дзяцей Дажбожых —
за тое, каб з пакутных воч
запона недаверу ўпала.
Нашчадка полацкіх князёў
зямля — ён сын ёй!—
                прычакала,
няхай жа са старым рыззём
пакут
        і страх адкінуць людзі!
Рагнеду манастыр прыняў,
ды меч, узняты ёю, будзе
ў руцэ таго, хто ані дня,
ні пядзі ад зямлі айчыннай
варожай раці не аддасць...
Як вабяць позірк далячыні! —

і што за імі, не ўгадаць,
і марна цягнецца малітва
з прамерзлай келлі да жывых.
Манашка... Шэпт. Карункі літар,
прарочых у апошні міг...

*

Ды будзе род славуты
і людам, і зямлёй,
што праз усе пакуты
ні дробінкай малой
ад сілы сваёй вечнай
не сплоціць злу!
Гады́
спяшаюць, як на веча,
з паходнямі сюды,
у вузенькую келлю —
склікае іх не жаль...
Ды скрозь дарогу сцеле
пад ногі коней даль!
І выткуцца сувоі
сінечы для нябёс,
што зернетка жывое
напояць, каб прарос,
закаласіў наступны,
для ўсіх шчаслівы дзень.
Ды доўжыцца для рупных
улада іх надзей!
Пачуюць плач жалейкі,
згадаюць... Хай назад
не азірнуцца! — з вейкаў
сляза...
сляза...
сляза...

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Занадта наблізіла далі?
Магчыма. Ды толькі яны
світалі, упарта світалі
так блізка — я чула званы,
і пацеры з вуснаў Рагнеды,
і крокі ў яе за спіной...
І сум мой не ведаў, не ведаў,
што час паміж намі — сцяной,
што ён і магілы не знойдзе
пасля, як адпусціць мяне
і, ціха ўздыхаючы, пойдзе
па той абымшэлай сцяне.
Дзе хмары дажджамі заслалі
парослы стагоддзямі груд,
сабор Ізяслава — Заслаўе! —
напоўніць загадкавы гуд.
Нібыта пустая званіца
раззвоніць далёкія дні,
хоць іх
на музейных паліцах
не ўгледзець — чарэпкі адны.
А я... Я нядаўна адкрыла:
у сэрцах (хай толькі ў адным!)
у кветкі прыбрана магіла —
яе не зруйнуюць гады.
А значыць, і памяць. І памяць...

Занадта балючы мой сказ?
Магчыма. Усе, хто — за намі,
палеглі.
Каб збыцца — у нас.

## ЗМЕСТ

### I



### II



### III

## IV

**Бондар Т.**

Б 81 Чырвоны месяц года: Вершы, паэма/[Маст. А. Александровіч].— Мн.: Маст. літ., 1985.— 127 с., іл.

65 к.

Новую кнігу паэткі склалі вершы і гістарычная паэма «Рагнеда». Аўтар імкнецца адчуць сваю знітаванасць з часам, з гістарычным мінулым краю, адлюстраваць багацце чалавечых пачуццяў.

Б $\frac{4702120200-021}{М\ 302(05)-85}$ 50—85 ББК 84Бел7

Бел 2

---

Таиса Николаевна Бондарь

КРАСНЫЙ МЕСЯЦ ГОДА

Стихи, поэма

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *Л. В. Дранько-Майсюк*. Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*. Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*. Карэктар *Т. Ю. Гузава*

ІБ № 2120

Здадзена ў набор 04.07.84. Падп. да друку 06.11.84. АТ 05771. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,83. Ул.-выд. арк. 5,69. Тыраж 2000 экз. Зак. 537. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.